*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 41 (1088)** **10 КАСТРЫЧНІКА 2012 г.**

## Дарагія сябры “Нашага слова”!

У гэтым квартале адбылося некаторае сезоннае павышэнне колькасці падпісчыкаў, акрамя Берасцейскай вобласці. Значнае павелічэнне колькасці чытачоў “Нашага слова” адбылося ў Менску, Магілёве, Наваполацку, Гомелі, Гарадзенскім раёне. Радуе Салігорск, хаця рэзка ўпала падпіска ў Слуцку, Бярозе, Жыткавічах, Валожыне. Прадаўжае мець месца шэраг раёнаў, дзе няма ні аднаго падпісчыка.

| | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| **Берасцейская вобласць:** | | |
| Баранавічы р.в. | 15 | 16 |
| Бяроза р.в. | 10 | 4 |
| Белаазёрск р.в. | 1 | 1 |
| Бярэсце гор. | 10 | 11 |
| Ганцавічы р.в. | 1 | 1 |
| Драгічын р.в. | 1 | 1 |
| Жабінка р.в. | 1 | 1 |
| Іванава р.в | 2 | 2 |
| Івацэвічы р. в. | 9 | 9 |
| Камянец р.в. | 2 | 2 |
| Кобрын гор. | 1 | 1 |
| Лунінец гор. | 3 | 2 |
| Ляхавічы р.в. | 1 | 1 |
| Маларыта р.в. | 1 | 1 |
| Пінск гор. | 11 | 10 |
| Пружаны р.в. | 9 | 8 |
| Столін р.в. | 1 | 1 |
| **Усяго:** | **79** | **72** |
| **Віцебская вобласць:** | | |
| Бешанковічы р.в. | 2 | 3 |
| Браслаў р.в. | 1 | 2 |
| Віцебск гор. | 20 | 22 |
| Віцебск РВПС | 2 | 2 |
| Верхнедзвінск р.в. | 5 | 5 |
| Глыбокае р.в. | 6 | 6 |
| Гарадок р.в. | 4 | 5 |
| Докшыцы р.в. | 1 | 1 |
| Дуброўня р.в. | 1 | 1 |
| Лёзна р.в. | 1 | 1 |
| Лепель р. в. | 2 | 2 |
| Міёры р.в. | 2 | 2 |
| Новаполацк гор. | 15 | 18 |
| Орша гор. | 3 | 2 |
| Полацк гор. | 8 | 9 |
| Пастаўы р.в. | 14 | 13 |
| Расоны р.в. | 1 | 1 |
| Сянно р.в. | 2 | 2 |
| Талочын р.в. | 1 | 1 |
| Ушачы р.в. | 2 | 2 |
| Чашнікі р.в. | 1 | 1 |
| Шаркоўшчына р.в. | 6 | 7 |
| Шуміліна р.в. | - | - |
| **Усяго:** | **100** | **108** |
| **Менская вобласць:** | | |
| Беразіно р.в. | 2 | 3 |
| Барысаў гор. | 5 | 7 |
| Вілейка гор. | 2 | 2 |
| Валожын гор. | 9 | 6 |
| Дзяржынск р.в. | 7 | 6 |
| Жодзіна гор. | 4 | 4 |
| Клецк р.в. | - | - |
| Крупкі р.в. | 3 | 4 |
| Капыль р.в. | - | - |
| Лагойск | 3 | 3 |
| Любань р.в. | - | - |
| Менск гор. | 239 | 265 |
| Менск РВПС | 13 | 10 |
| Маладзечна гор. | 14 | 14 |
| Мядзель р.в. | 3 | 3 |
| Пухавічы РВПС | 5 | 4 |
| Нясвіж р.в. | - | 1 |
| Смалявічы р.в. | 1 | 2 |
| Слуцк гор. | 21 | 7 |
| Салігорск гор. | 73 | 72 |

| | Ліпень | Кастрычнік |
|---|---|---|
| Ст. Дарогі р.в. | - | - |
| Стоўбцы р.в. | 3 | 3 |
| Узда р.в. | 2 | 2 |
| Чэрвень р.в. | 4 | 3 |
| **Усяго:** | **413** | **421** |
| **Гомельская вобласць:** | | |
| Буда-Кашалёва | - | - |
| Брагін р.в. | - | 1 |
| Ветка р.в. | 1 | 1 |
| Гомель гор. | 30 | 37 |
| Гомель РВПС | 1 | 1 |
| Добруш р.в. | 1 | 1 |
| Ельск р.в. | 1 | 1 |
| Жыткавічы р.в. | 13 | 7 |
| Жлобін гор. | 1 | 3 |
| Калінкавічы гор. | 2 | 1 |
| Карма р.в. | 1 | 2 |
| Лельчыцы р.в. | 1 | 1 |
| Лоеў р.в. | 1 | 1 |
| Мазыр гор. | 4 | 4 |
| Акцябарскі р.в. | 1 | 1 |
| Нароўля р.в. | - | - |
| Петрыкаў р.в. | 1 | 1 |
| Рэчыцца гор. | 1 | - |
| Рагачоў гор. | 1 | 1 |
| Светлагорск гор. | 2 | 3 |
| Хойнікі р.в. | - | - |
| Чачэрск р.в. | - | 2 |
| **Усяго:** | **64** | **69** |
| **Гарадзенская вобласць:** | | |
| Бераставіца | 4 | 4 |
| Ваўкавыск гор. | 9 | 9 |
| Воранава р.в. | 5 | 5 |
| Гародня гор. | 36 | 36 |
| Гародня РВПС | 12 | 16 |
| Дзятлава р.в. | 16 | 16 |
| Зэльва р.в. | 4 | 4 |
| Іўе р.в. | 3 | 4 |
| Карэлічы р.в. | 9 | 6 |
| Масты р.в. | 6 | 5 |
| Наваградак гор. | 5 | 6 |
| Астравец р.в. | 6 | 6 |
| Ашмяны р.в. | 7 | 6 |
| Смаргонь гор. | 7 | 7 |
| Слонім гор. | 9 | 10 |
| Свіслач р.в. | 5 | 5 |
| Шчучын р.в. | 5 | 5 |
| Ліда | 11 | 11 |
| **Усяго:** | **159** | **161** |
| **Магілёўская вобласць:** | | |
| Бабруйск гор. | 6 | 4 |
| Бялынічы р.в. | 1 | 1 |
| Быхаў р.в. | 1 | 1 |
| Глуск р.в. | 1 | 2 |
| Горкі гор. | 1 | 1 |
| Дрыбін р.в. | - | - |
| Кіраўск р.в. | 21 | 21 |
| Клічаў р.в. | - | - |
| Клімавічы р.в. | - | - |
| Касцюковічы р.в. | 1 | 1 |
| Краснаполле р.в. | - | - |
| Крычаў р.в. | - | - |
| Круглае р.в. | 1 | 1 |
| Мсціслаў р.в. | 1 | 1 |
| Магілёў гор. | 33 | 38 |
| Магілёў РВПС | 1 | 1 |
| Асіповічы гор. | 9 | 7 |
| Слаўгарад р.в. | 1 | 1 |
| Хоцімск р.в. | 1 | 1 |
| Чэрыкаў р.в. | 1 | 2 |
| Чавусы р.в. | - | - |
| Шклоў р.в. | 3 | 2 |
| **Усяго** | **83** | **85** |
| **Усяго на краіне:** | **898** | **916** |

ISSN 2073-7033




## Да 150-годдзя паўстання 1863 года




Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны” выпусціла кішэнны каляндарык да 150-х угодкаў паўстання 1863 года. На каляндарыку партрэт кіраўніка паўстання на Беларусі і Літве Кастуся Каліноўскага на фоне Свіслацкай гімназіі і “Мужыцкай праўды”.

*Наш кар.*

## Як беларусы адносяцца да вайны 1812 года

200 гадоў таму адбылася так званая Айчыная вайна 1812 г.

Аднак для беларусаў ніяк нельга назваць яе Айчыннай. Два монстры - Францыя і Расія - вырашалі свае праблемы. І як заўсёды, за кошт больш слабых. У 1795 годзе Расія захапіла Вялікае Княства Літоўскае, а праз 17 год Францыя пайшла на Расію. І як заўжды, драпежнікі ішлі з Усходу, Захаду, Поўдню альбо з Поўначы. Заўсёды гэта суправаджалася рабаваннем, акупацыяй і вялікімі стратамі і бедамі.

Частка насельніцтва прымкнула да Расіі, частка - да Францыі. Напалеон абяцаў адрадзіць Вялікае Княства Літоўскае. А большасці давялося, як заўжды, проста выжываць.

Усё гэта суправаджалася вялікімі бедамі, і ніяк нельга гэтую вайну назваць Айчыннай. Для Літвы (Беларусі) гэта была чужая вайна.

***Уладзімір Шыцікаў.***




*Медаль (жэтон) да 200-годдзя вайны 1812 года. Медзь. Надпісы: “Чужая вайна, 1812”, “Беды беларускія”, “Александр”. “Napoleon”, “200 год”. (Дасланы з Гомеля.)*

18 кастрычніка
у межах кампаніі "Будзьма" адбудзецца прэзэнтацыя!"
**Прэзэнтацыя зборніка матэрыялаў краязнаўчай канферэнцыі ТБМ.**
Імпрэза праводзіцца на сядзібе ТБМ
па вул. Румянцава, 13.
Пачатак - 17.30 гадзін. Уваход вольны.

## 80 гадоў з дня нараджэння Івана Пташнікава



**Пташнікаў Іван Мікалаевіч** нарадзіўся 7.10.1932 г. у вёсцы Задроздзе Плешчаніцкага (цяпер Лагойскага) раёна Менскай вобласці ў сялянскай сям'і.

Да вайны скончыў 3 класы Задроздзенскай пачатковай школы. Пасля вайны - Крайскую сямігодку (1948), Плешчаніцкую беларускую сярэднюю школу (1951).

Працаваў у рэдакцыі плешчаніцкай раённай газеты "Ленінец", настаўнікам Лонваўскай пачатковай школы. У 1957 г. скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта БДУ. Працаваў рэдактарам мастацкай літаратуры Белдзяржвыдавецтва (1957-1958), рэдактарам аддзела прозы часопіса "Маладосць" (1958-1962), з 1962 года па 1995 год - рэдактар аддзела прозы часопіса "Полымя". Член Саюза пісьменнікаў Беларусі з 1959 года.

Друкавацца пачаў з 1952 года (верш "На полі родным"). Першы яго празаічны твор - аповесць "Чачык" (1957); першая кніга апавяданняў і аповесцяў - "Зерне падае не на камень" (1959). Яны, а таксама раман "Чакай у далёкіх Грынях" (1960) вызначылі пачатак творчага шляху Івана Пташнікава-празаіка, прыхільнасць яго да вясковай тэматыкі, веданне паўсядзённага побыту, звычаяў, псіхалогіі вяскоўцаў, здольнасць аўтара грунтоўна і ўсебакова паказаць дыялектыку характараў, праўду рэальных абставін.

У яго апавяданнях ("Алёшка", "Алені", "Бежанка"), аповесці "Лонва" упершыню пачала праяўляцца асаблівая ўвага да ўнутранага стану чалавека, загучаў матыў вайны ў лёсах людзей.

Тэма вайны займае ў творчасці пісьменніка асаблівае месца. Трагедыі спаленых разам з людзьмі вёсак, такіх, як Дальва (аповесць "Тартак", 1968), гераічная барацьба партызан і жыхароў акупаванай Беларусі супраць гітлераўскага нашэсця (аповесць "Найдорф", 1976), антываенны пафас многіх апавяданняў сведчаць пра тое, што вайна ў І. Пташнікава свая, перажытая ў дзяцінстве. Яна пакінула ў душы пісьменніка балючы незагоены след.

Раманы "Мсціжы" (1972) і "Алімпіяда" (1984) - найбольш яркія творы беларускай "вясковай" прозы 1960-80-х гадоў. У 1990-1992 гг. выйшаў Збор твораў у 4-х тамах.

Многія творы пісьменніка перакладзены на замежныя мовы. Па аповесці "Тартак" на беларускім тэлебачанні ў 1974 г. пастаўлены аднайменны тэлефільм (сцэнарый аўтара), а ў 1989 г. па раману "Алімпіяда" - аднайменны тэлеспектакль.

Іван Пташнікаў - лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Я. Коласа (1978) за аповесць "Найдорф". Заслужаны работнік культуры Беларусі (1983).

*Аўтар: А.І. Цароў.*

Да ведама сяброў рады ТБМ у адпаведнасці з рашэння Сакратарыяту ТБМ ад 21 верасня
**паседжанне чарговай Рады ТБМ адбудзецца**
**21 кастрычніка** ў нядзелю ў сядзібе ТБМ
па Румянцава, 13.
Рэгістрацыя з 10.00. Пачатак паседжання ў 11.00.
Асноўнае пытанне: прыняцце праекту плану дзейнасці ТБМ на наступны год.
У сувязі з гэтым просім усіх сяброў ТБМ дасылаць свае прапановы ў план да 15 кастрычніка на сядзібу ТБМ.

Павел Сцяцко

# Прозвішчы Беларусі

## *(паходжанне, утварэнне, значэнне, значэнне ўтваральных асноў)*

Пра сямейныя ўласныя асабовыя імёны (прозвішчы) напісана і выдадзена ў славістыцы нямала прац (манаграфіі, слоўнікі, папулярныя выданні, артыкулы). У беларусістыцы гэта найперш навуковыя выданні Мікалая Васільевіча Бірылы, заснавальніка беларускай антрапанімікі, а таксама працы С. Богуша, М. Грынблата, В. Лемцюговай, Г. Мезенкі, А. Рогалева, П. Сцяцко, В. Шура, У. Юрэвіча і іншых.

Асобныя зацемкі пра беларускія прозвішчы і іх формы сустракаюцца ў творах беларускіх філолагаў, пісьменнікаў (Я. Брыль, Н. Гілевіч, А. Каўрус, Я. Колас, У. Ліпскі, К. Чорны, Ф. Янкоўскі).

Прозвішчы асобных рэгіёнаў Беларусі разглядаюцца ў працах Г. Семянковай, А. Усціновіч і іншых. Апісанню прозвішчаў у супастаўляльна-тыпалагічным плане прысвечаны працы К. Барысевіч, І. Гапоненкі і некаторых іншых аўтараў.

У прапанаванай чытачам "Нашага слова" працы "Прозвішчы Беларусі" разглядаюцца пытанні паходжання гэтых антрапанімічных адзінак, іх словаўтваральнай будовы і значэння ўтваральных асноў на матэрыяле даступных нам крыніц - антрапімікону Гродзеншчыны.

На кафедры беларускага і тэарэтычнага мовазнаўства і навукова-метадычнай лабараторыі пры гэтай кафедры падрыхтаваны рукапіс Слоўніка прозвішчаў Гродзеншчыны. Тут падаюцца прозвішчы ў трох графічных варыянтах: беларускай кірыліцай і лацінкай і рускай графікай. Лацінізаваны варыянт беларускамоўных формаў зроблены на ўзор геаграфічныхназваў Беларусі - адпаведна з стандартамі, прынятымі Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый.

З прозвішчаў Гродзеншчыны пакуль што апублікаваны толькі "Слоўнік прозвішчаў Зэльвеншчыны" - у кнізе: *П.У. Сцяцко. Мовазнаўчы досвед. Выбраныя творы ў 2 частках (кнігах). Частка 1. - Гродна: ГрДУ імя Янкі Купалы. 2005*. А таксама падаюцца эцюды пра асобныя прозвішчы з радзімы аўтара гэтых радкоў, а менавіта тыя, што змяшчаюцца ў рубрыцы "Зэльвенцы, вядомыя ў свеце", у юбілейным выпуску Зэльвенскай раённай газеты "Праца" за 18 кастрычніка 2008 года, № 81 (8035).

Гэта (у алфавітнай паслядоўнасці ў трохкампанентнай структуры) *Жэбрак* Антон Раманавіч, *Іоська* Міхаіл Іванавіч, *Клубовіч* Уладзімір Уладзіміравіч, *Малочка* Мікалай Пятровіч, *Сачак* Міхаіл Рыгоравіч, *Сідар* Сяргей Іванавіч, *Сцяцко* Павел Уладзіміравіч.

Згаданыя прозвішчы і артыкулы пры іх змешчаны ў кнізе *"Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка Зэльвенскага раёна"* (Мінск, 2003. С. 413-418).

Пры аналізе згаданых прозвішчаў паказваецца іх частотнасць паводле звестак "Слоўніка прозвішчаў Зэльвеншчыны".

*Жэбрак А.Р.* Нарадзіўся ў в. Збляны ў 1902 г. Яго аднавяскоўцы падаюцца ў кнізе "Памяць" з прозвішчам *Жабрак*. Гэта першасная, натуральная беларуская форма прозвішча; яна зафіксавана ў 39 сем'ях. Паходзіць ад мянушкі *Жабрак* - 'пра вельмі беднага чалавека, які жабруе, жыве з міласціны'. Няўласнае найменне, агульны назоўнік *жабрак* вядомы амаль ва ўсіх славянскіх мовах: украінскае *жебрак*, польскае *zebrak*, чэшскае *zebrak* і г.д. Утворана *жабрак* ад дзеяслова *жабраваць*, яго першаснай формы *жебрати* (вядомае ў старабеларускай мове з канца XV стагоддзя): *жебр-ак* - *жабрак*.

Акадэмік, у 1947 годзе прэзідэнт АН БССР Жэбрак А.Р., сам прызнаваўся, што дома яго прозвішча вымаўляецца *Жабрак*, з націскам на апошнім складзе. Зазначым, што такое вымаўленне мае не толькі беларуская, а і ўкраінская, чэшская, славацкая і іншыя славянскія мовы; а ў польскай мове націск у словах - на перадапошнім складзе, адсюль у польскіх дакументах (а потым і расійскіх) яно мела форму з націскам на першым складзе. Таму і замацавана ў дакументах прозвішча *Жэбрак Р.А.* Яно захавана і ў кнізе "Памяць".

*Іоська М.І.* З вёскі Бародзічы. Прозвішча зафіксавана ў 15 сем'ях. Паходзіць ад кананічнага *Іосіф*, яго гутарковай формы, з далучэннем суфікса *-к-а: Іоська.* Як і *Васька, Ванька.*

*Клубовіч У.У.* З вёскі Варонічы. Прозвішча зафіксавана ў 8 сем'ях. Утворана ад слова *клуб*, якое ў народнай мове мае два асноўныя значэнні: 1) лятучая шарападобная маса пылу, дыму, пары, клубок; 2) косці таза, якія выступаюць ніжэй ад пояса. У літаратурнай мове слова абазначае і ўстанову культуры. Утварэнне з патранімічным суфіксам *-овіч*: *Клубовіч*. Параўн. *Багдан-овіч*. Першапачаткова было мянушкай, якою называлі чалавека з выпучанымі клубамі.

*Малочка М.П.* З вёскі Пляцянічы (пазней пераназванай па яго ініцыятыве ў Чырвонае Сяло). Зафіксавана ў 3 сем'ях. Утварылася ад мянушкі *Малачко* шляхам пераносу націску на іншы склад - *Малочка*. Гэты спосаб ўтварэння прозвішчаў называецца акцэнтаваннем (ад *акцэнт* "націск"). Акцэнтаванне нярэдка выкарыстоўваецца для ўтварэння прозвішчаў ад назоўнікаў-мянушак: *дзежка* - *Дзяжко*, *лапа* - *Лапо*, *лялька* - *Лялько*, *Тычка* - *Тычко*, а таксама прозвішчаў ад імёнаў: *Барыс* - *Борыс*, *Валька* - *Валько*, *Санька* - *Санько*.

*Сачак М.Р.* З вёскі Варонічы. У "Слоўніку прозвішчаў Зэльвеншчыны" не фіксуецца ў такой форме, а толькі *Сачок* - у 40 сем'ях. Брата Івана (настаўніка нямецкай мовы ў Дзярэчынскай школе) і сястру Соф'ю (Зосю, настаўніцу англійскай мовы ў Гродне) клікалі па прозвішчы *Сачок*.

Форма *Сачак* узнікла шляхам акцэнтавання, каб адмежаваць прозвішча ад агульнага назоўніка *сачок*, які абазначае 1) жаночую вопратку тыпу кароткага прасторнага паліто; 2) рыбалоўную снасць у выглядзе сеткі, нацягнутай на абруч. Акрамя таго, ў Тлумачальным слоўніку беларускай мовы яно падаецца і з пагардлівым значэннем "лодар" і "даносчык". У гаворках Зэльвеншчыны бытуе памяншальная форма ад *сак* (від вопраткі) з суфіксам *-ык*: *сачык*. Яна можа гучаць і *сачак*.

*Сідар С.І.* З вёскі Янаўшчына. Зафіксавана ў 38 сем'ях. Паходзіць ад уласнага асабовага імя *Сідар*, якое праз стадыю мянушкі набыло статус прозвішча. Хочацца ўхваліць складальнікаў кнігі "Памяць", якія захавалі гэтую натуральную форму прозвішча доктара педагагічных навук, прафесара Сяргея Іванавіча Сідара, а не перакручаную (скажоную) *Сідор*, якая падаецца ў падручніку "Геаграфія Беларусі".

*Сцяцко П.У.* З вёскі Грабава. Прозвішча зарэгістравана сярод зэльвенцаў у 22 сем'ях. Досыць пашыранае на Беларусі. Назву *Сцяцкі* маюць тры вёскі ў Беларусі: у Квасоўскім сельсавеце Гродзенскага раёна, а таксама ў Валожынскім і Стаўбцоўскім раёнах Мінскай вобласці. Ёсць і вытворныя словы ад гэтага прозвішча: *Сцяцкевіч* і *Сцяцэвіч* (Гродзеншчына), бытуе такое прозвішча і на Украіне (і даволі пашыранае) - *Стецько*, а таксама ў Польшчы - *Stecko*. Досыць старажытнае ўласнае асабовае найменне (у помніках фіксуецца з 15 стагоддзя). Адназначнага тлумачэння яго паходжання няма. Як мяркуе акадэмік Бірыла М.В., прозвішча ўтварылася ад імя *Сцяпан* (*Степан, Стефан*), яго памяншальна-ласкальнай формы з фінальнай часткай *-цько (-цко)*: *Степцько - Стецько - Сцяцко* (спрашчэнне групы збегу зычных: *пцьк - цьк*).

Першым найменнем асобы, як вядома, было імя, потым з'явіліся імёны па бацьку і нарэшце прозвішчы. Асновай для іх сталі дахрысціянскія імёны (а пазней, пры замацаванні ў іменаслоўі хрысціянскіх імёнаў, ранейшыя імёны сталі выконваць ролю мянушак) і хрысціянскія імёны (рэдкія паводле іх выкарыстання ў пэўнай мясцовасці), асабліва іх гутарковыя формы. Даследчыкі выявілі больш за 2500 уласных асабовых імёнаў і іх варыянтаў у беларускай мове, шмат якія на сённяшні дзень не выкарыстоўваюцца. Старадаўнія імёны сталі грунтам для прозвішчаў. У гутарковай мове імя магло мець шмат сваіх вытворных варыянтаў, найбольш папулярныя імёны давалі да ста і болей варыянтаў. Таму вызначыць, ад якога імя, яго варыянта паходзіць тое ці іншае прозвішча, бывае досыць не проста. Тым больш, што шмат прозвішчаў мае і іншае паходжанне.

Усе прозвішчы сваім паходжаннем падзяляюцца на два асноўныя разрады: 1) адымёнавыя прозвішчы (утвораныя ад уласных асабовых імёнаў, іх варыянтаў) і неадымёнавыя, інакш апелятыўныя (утвораныя ад агульных найменняў). Напрыклад: *Іванaчка* (ад *Іван*) і *Авечка* (ад назвы свойскай жывёлы авечка) ці *Капуста*, *Ліс*, *Сарока* і пад.

Нагадаем, што на нашай тэрыторыі гістарычна склаліся дзве сістэмы іменаслоўя: праваслаўныя прытрымліваліся візантыйска-грэчаскага іменаслоўя, каталікі насілі рымска-каталіцкія імёны і давалі сваім дзецям: *Адольф* (гутарковае *Адоляк*), *Людвіг*, *Рамуальд (Ромак), Франц (Франак), Юзэфа (Юзя), Ванда, Зыгмунд (Зыгмусь)*. У асяроддзі каталікаў пераважнае ўжыванне мелі лацінізаваныя формы старажытных імёнаў: *Базыль. Ян (Янак, Януш), Томаш (Томак)* і інш.

Сярод гэтых прозвішчаў нямала такіх, што непасрэдна (без змены іх формы) ўзніклі ад імёнаў (сучасных ці пазнейшых, часам яўрэйскіх, літоўскіх, татарскіх, рускіх, польскіх). Гэта наступныя прозвішчы: *Алізар, Архіп, Багдан, Бартош, Барыс, Ган, Гардзей, Дарафей, Дзяміда (Дзямід), Захара (Захар), Карней, Кароль, Карпей, Каспар, Конан, Нічыпар, Панас (Апанас), Патап, Пракоп, Радзівон, Сазон, Сідар, Супрун (Супрон), Церах, Шміт, Эйсмунт, Якім, Ярош (Яраш)*.

Але найбольш прозвішчаў утворана ад гутарковых варыянтаў імёнаў. Гэтыя прозвішчы часта маюць у сваёй структуры вядомыя ў мове суфіксы (і іх спалучэнні), якія маглі далучацца і да скарочанай (адцятай канцавой, а часам і пачатковай ці сярэдзінавай часткі) асновы і ўтвараць празрыстыя будоваю словы. Сярод вядомых утваральных сродкаў найчасцей выкарыстоўваліся суфіксы, якія перадавалі значэнне "сын", "дачка": *-ік (-ык), -к-о, -к-а, -ак, -ук, (-юк), -чык, -чук, -ушка* і інш. Да гэтай групы прозвішчаў належаць *Абрамчык* - ад *Абрам*, *Адамчык* і *Адамушка* - ад *Адам*, *Ануфрык* - ад *Ануфрый*, *Архіпчык* - ад *Архіп*, *Васько* - ад *Васіль* (гутарковага варыянта *Вася*), *Данільчык* - ад *Даніла*, *Дзмітрук* - ад *Дзмітрый*, *Кандрацік* - ад *Кандрат*, *Кірыльчык* - ад *Кірыл, Кірыла*, *Косцік* - ад *Канстацін, Лявонік* - ад *Лявон, Міхалік* - ад *Міхал, Панасік* - ад *Панас* < *Апанас* < *Афанасій, Пракопчык* - ад *Пракоп, Пяцько* - ад *Пеця* < *Пётр, Радзівончык* - ад *Радзівон, Сідарка* і *Сідорык*- ад *Сідар, Стасько* - ад *Стась* < *Станіслаў, Сцепанчук* і *Сцяпанчык* - ад *Сцяпан, Тарасік* - ад *Тарас, Уласік* - ад *Улас, Фядосік* - ад *Фядос, Юрык* - ад *Юра* < *Юрый*.

Больш складаныя будовaю адымёнавыя прозвішчы маюць і іншыя суфіксы ці іх спалучэнні. Так, суфіксы *-авіч-, -овіч-, -эвіч* ўтварылі імя па бацьку, а *-іч (-ыч)* - па мацеры. Гэта прозвішчы: *Алексіяк* - ад *Аляксей, Алексій, Алешчук* - ад *Алесь* <*Аляксандр*; *Альяшэвіч* і *Эльяшэвіч, Ільяшэвіч* - ад *Ілья*, якое давала варыянты *Альяш* і *Гальяш, Эльяш, Ільяш; Амбражэвіч* і *Амбражэйчык, Амбразайтус* - ад *Амброжы; Амельяновіч* і *Эмельяновіч, Амяльянчык* - ад *Амяльян; Андрасюк* і *Андрукевіч, Андрушка, Андрушкевіч, Андрыюк* ад *Андрэй; Вайцешка* і *Вайцешык, Вайцяховіч* - ад *Войцех; Валадашчык* - ад *Валадар; Валадзько* ад *Валодзька* <*Валадзімір; Валюк* і *Валянцейчык* - ад *Валянцін; Васілевіч* і *Васілеўка, Васілеўскі, Васіліцкі, Васількоў, Васільчук, Васько* - ад *Васіль; Вікторка* - ад *Віктар; Ганакоўскі* і *Ганісеўскі. Ганякоўскі* ад *Ган; Гардзейка* - ад *Гардзей; Гаўрылік* - ад *Гаўрыла; Герасімчык* - ад *Герасім; Германовіч* - ад *Герман; Грыгаровіч* і *Грыгарук, Грыгорчык, Грышкевіч, Грышчук* - ад *Грыгор* (г.в. *Грыша*), *Грэшчук* і *Грэшчык* ад *Грэгары, Гжэгаж; Дабрыян* - ад *Дарыян; Давыдзік* і *Давыдчык* - ад *Давыд; Дамянюк* - ад *Дамінік; Данюк* - ад *Дана* (ж.р.); *Дарафейчык* і *Дараховіч, Дарашук, Дарахвей, Дорах* - ад *Дарафей; Дзяміда* і *Дзямідзік, Дзямідзюк, Дзямідок, Дзямчук* - ад *Дзямід, Дзянісевіч* і *Дзянісчык* - ад *Дзяніс, Дзмітрук* - ад *Дзмітрый, Ельяшэвіч* і *Ільяшэвіч* - ад *Ілья; Емельяновіч* - ад *Емяльян; Ерамейчык* - ад *Ерамей; Захарка* і *Захарчук* - ад *Захар; Зіневіч* і *Зяневіч* - ад *Зіна* ці *Зіновій; Івановіч, Іваноўскі, Іванцоў, Іванчук* - ад *Іван*; *Ігнацюк* - ад *Ігнат; Канановіч - ад Конан; Кандрацюк* і *Кандрацюкоўскі* - ад *Кандрат; Каралевіч, Каралеўскі* - ад *Карал, Кароль; Карпей* і *Карпейчык, Карпіза, Карповіч, Карпук* - ад *Карп; Каспероец* і *Касперчык, Каспяровіч* - ад *Каспар; Кацярынінскі* - ад *Кацярына; Кірыльчык* - ад *Кірыл, Кірыла; Клімашэвіч* і *Клімуць* - ад *Клім; Кузьміцкі, Кузьміч* - ад *Кузьма, Куліноўскі* - ад *Куліна; Купрашэвіч* - ад *Купраш; Купраянчык* - ад *Купрыян; Леанеўскі* - ад *Леон; Леванецкі* і *Левановіч* - ад *Леа, Лева; Лявонец, Лявонік* - ад *Лявон; Майсюк* - ад *Майсей; Макарчук, Макарэвіч* - ад *Макар; Максімовіч, Максімчык* - ад *Максім; Маркоўскі* і *Марчанка, Марчук, Марэчка* - ад *Марк; Мартыноўскі* - ад *Мартын; Марцінкевіч* і *Марцінчык, Марцішак, Марцішкевіч, Марцішык* - ад *Марцін; Мацвейчык* і *Мацвяйчук* - ад *Мацвей; Мацievіч*, *Мацкевіч, Мацко, Мацюк* - ад *Мацей; Мелашкевіч* - ад *Мілаш; Мікітэнка* - ад *Мікіта; Мікульскі* - ад *Мікула; Мілюк* - ад *Міла* (ж.р); *Мінаец, Мінец, Мінько* - ад *Міна, Міроненка* - ад *Мірон; Мірскі* - ад *Міра* (ж.р.); *Міхайлоўскі, Міхалік, Міхалькевіч, Міхальчык, Міхалюк* - ад *Міхайла, Міхал; Міхневіч, Міхно, Міхута* - ад *Міхей; Міцкевіч, Міця, Міцька* - ад *Дзмітры; Мялешка* - ад *Мялет; Навумчык* - ад *Навум; Несцяровіч* - ад *Несцер; Нічыпарчук* - ад *Нічыпар* < *Нікіфар; Павачка* - ад *Павал, Паўліна; Панасік* і *Панашчук* - ад *Панас* < *Апанас, Парфенчык, Парфёнчык* - ад *Парфен, Патаповіч* - ад *Патап, Паўлоўскі, Паўлюкевіч, Пашкевіч, Пашко, Пашкоўскі* - ад *Павел* > *Паша; Пертачэнка, Петрашкевіч, Петрушкевіч, Петруць, Петрушэвіч, Петушок* - ад *Пётр, Пракаповіч, Пракопчык* - ад *Пракоп; Пратасоўскі* - ад *Пратас; Пяткевіч, Пятко, Пятраш, Пятрашка, Пятроўскі, Пятруца, Пяцько, Пяцюшык* - ад *Пётр* > *Пеця, Радзіваноўскі, Радзівончык* - ад *Радзівон; Радзіеўскі, Радзікоўскі, Радкевіч, Радкоўскі, Радута* - ад *Рада; Раінчык* - ад *Раіна* > *Рэгіна, Раманец, Раманоўскі, Раманчук, Раманчык, Раманюк* - ад *Раман; Савіцкі* - ад *Сава; Самусік, Самушчанка, Самушчык* - ад *Самуіл; Санюк* - ад *Саня* < *Аляксандр; Саўчук, Саўчык* - ад *Сава; Сельвасевіч* - ад *Сільвіа; Семяняка, Семянюк, Семянчук, Сёмка, Сямашка* - ад *Сямён, Серафімовіч* - ад *Серафім; Сідарка, Сідаровіч, Сідорык* - ад *Сідар; Сінкевіч, Сіньковіч, Сянкевіч, Сяньковіч, Сянько* - ад *Сенко, Сенька* < *Сямён; Сіськевіч* і *Сісько* - ад *Сісой, Станіслаўчык, Станкевіч, Стасевіч, Стасько, Стасюкевіч* - ад *Стась*< *Станіслаў; Супруновіч* - ад *Супрун; Сцяпанчык, Сцяпанчук* - ад *Сцяпан; Сяргейка. Сяргейчык* - ад *Сяргей; Тарасік, Тарасэвіч* - ад *Тарас; Трафімовіч* і *Трафімец*- ад *Трафім, Уласік* - ад *Улас; Федаровіч, Фядук, Хвядук, Хвясько, Хвасюк, Хвядук, Хвясюк,* - ад *Фёдар* > *Хведар*; *Фядосік* - ад *Фядос; Халімончык* - ад *Халімон; Харук, Харута, Харытончык* - ад *Харытон; Цімафей (Цімахвей), Цімафейчык, Цімашок* - ад *Цімафей, Цімох; Ціхановіч, Цішко, Цюхно* - ад *Ціхан, Цярэшка* ад *Церах; Шымановіч, Шаманчук, Шыманчук, Шымановіч, Шыманскі* - ад *Шыман; Юрага і Юрахно, Юргель, Юркевіч, Юрчак, Юрчук, Юрык* - ад *Юрый; Юхневіч, Юхноўскі, Юшка, Юшкевіч, Юшчык* - ад *Юхім* < *Яўхім; Якавук, Якаўчук, Якалцэвіч (< Якаўцэвіч), Якапцэвіч* - ад *Якаў; Якіменя, Якімец, Якімовіч* - ад *Якім; Якоўчык*- ад *Якаў; Якубеня, Якубовіч, Якубоўскі, Якубюк* - ад *Якуб, Якута, Якуш* - ад *Якаў, Яноўскі, Янукевіч, Янулевіч, Януль, Януш, Янушкевіч, Янушчанка, Янцэвіч* - ад *Ян; Ярашэвіч, Ярошка* - ад *Ярош* < *Яраслаў, Яскевіч, Ясюкевіч* - ад *Ясь* < *Ян; Яўсейчык* - ад *Яўсей; Яфімовіч* - ад *Яфім*.

Павел Сяцко

# Прозвішчы Беларусі

## *(паходжанне, утварэнне, значэнне, значэнне ўтваральных асноў)*

Заўважым, што прозвішчы на *-овіч, -евіч* - гэта звычайна былыя імёны па бацьку, у якіх націск перайшоў на суфікс: *Багданавіч* (Багданаў сын, *Багдан*) - *Багдановіч*. А прозвішчы на *-скі/-цкі, -оўскі, -аўскі* нярэдка ўзніклі як другасныя формы з адценнем "прэстыжнасці", шляхетнасці. Так, былыя прозвішчы *Астаповіч, Вайцяховіч* набывалі ў сем'ях шляхты формы *Астапоўскі, Вайцяхоўскі*. Прычым, канцавыя часткі *-оўскі, -іцкі* прыклейваліся і да неадымёнавых прозвішчаў. Так, знаны лінгвіст распавядаў, як былое яго прозвішча *Крывы* стала *Крывіцкі*. Ад прозвішчаў *Сокал, Колас* і падобных паходзяць "шляхетныя" формы (варыянты) *Сакалоўскі, Каласоўскі* і пад.

Для цікаўных раю выкарыстаць літаратуру: *М.В. Бірыла. Беларуская антрапанімія. - Мінск. 1982; П.У. Сяцко. Мовазнаўчы досвед (выбраныя творы): у 2 ч. Частка 1... Анамастыка. - Гродна, 2005; М.Р. Суднік. Слоўнік асабовых уласных імён. - Мінск, 1965 (1 і 2-е выд.). Арфаграфічны слоўнік беларускай мовы / аўт.-склад. А.Л. Баршчэўская, Л.П. Баршчэўскі. - Мінск, 2010. - 560 с. Дадатак. Уласныя асабовыя імёны. - С.542-548. + Уласныя асабовыя імёны, распаўсюджаныя па-за межамі Беларусі. - С.549-556.*

Адапелятыўныя прозвішчы (ад апелятыў - 'агульны назоўнік') складаюць самую вялікую і разнастайную групу ўнутрысямейных найменняў асобы. Яны паходзяць ад былых дахрысціянскіх імёнаў, ад празванняў асоб (мянушкі, клічкі) па самых розных прыметах: вонкавы выгляд (*Белы, Кульгавы*); род дзейнасці, заняткаў (*Каваль, Кравец*); паходжанне, месца пражывання (*Татарын, Швед, Ліпскі*); падабенства да прадметаў, жывых істот, раслін (*Качарга, Лапата, Заяц, Бурак*) і сувязь з пэўнымі паняццямі (*Вайна, Зіма, Мароз*), адметнасць вымаўлення тых ці іншых слоў, частаце іх выкарыстання.

Прааналізаваныя найменні дазваляюць вылучыць некалькі лексічных груп этымонаў гэтых прозвішчаў.

Зазначым адразу, што ў склад вылучаных груповак уключаюцца і вытворныя ад першасных найменняў словы: *Мядзведзкі* і *Мядзведскі, Лебедзь* і *Лебядзевіч, Чорны* і *Чарнецкі, Чарнушка*. Да таго ж, хачу звярнуць ўвагу чытачоў на надта важнае значэнне, якое надаюць прозвішчам іх словаўтваральныя сродкі (суфіксы). Яны маюць разнастайнае значэнне ў складзе вытворных прозвішчаў.

Суфіксы *-оў/-аў/-еў/-ёў* надаюць значэнне 'сын названай утваральным словам асобы': *Балабанаў (Балабан), Рыбакоў* (сын таго, хто мае прозвішча *Рыбак*). Значэнне дачкі ці асобы жаночага полу надаюць суфіксы: *-к-а: Багатырка, Вайцешка (<Войцех), Мазырка (< Мазыр); -іх-а (-ых-а): Урбаніха.* Суфікс *-іч (-ыч)* мае значэнне 'нашчадак' (чалавек у адносінах да сваіх продкаў, сын, спадчыннік, наступнік або ўвогуле 'дзіця'): *Скарыніч (< Скарына), Крупіч (< Крупа), Пойліч (< Пойла), Тычыніч (< Тычына)*. Адпаведную ролю выконваюць і суфіксы *-ік(-ык): Гойлік (< Гойла), Лосік (< Лось); -ок, -ук (-юк), -чык, -чук, -ен-я, -анк-а: Пастушок, Слясарчык, Шупеня (< Шупа)*. Суфіксы *-овіч / (-авіч), -евіч (-эвіч)* маюць значэнне 'імя па бацьку': *Акуневіч* (ад першапачатковага *Акуневіч* - 'сын асобы з прозвішчам *Акунь* (Акунеў сын)', а потым пры набыцці статусу прозвішча націск ў слове перайшоў на суфікс (*Акуневіч*).

Суфіксы *-ск-і, -цк-і, -оўск-і (-аўск-і), -еўск-і (-эўск-і), -інск-і (-ынск-і)* маюць некалькі значэнняў: 1) тапанімічнае значэнне (тапонім - уласнае імя геаграфічнага аб'екта): *Азярынскі* (з в. Азярыны), *Вішнеўскі* (з Вішнева), *Мазырскі* (Мазыр); 2) значэнне мясціны, пакрытай адпаведным відам дрэў, зарасніку: *Дуброўскі* (з дубровы); 3) значэнне прэстыжнасці, шляхетнасці: *Жукоўскі (< Жук), Жылінскі (<Жылін, Жыла), Лісоўскі (< Ліс), Камароўскі (<Камар > Комар).*

Тапанімічную функцыю бяруць на сябе і суфіксы *-ец (-эц, -ац), -ецк-і (-ацк-і), -овік (-эвік, -авік)*: *Альховік* (вольха, альха, алешына) і *Альшэвік, Валынец* (Валынь), *Капылец* (Капыль). Улічваючы значэнні названых суфіксаў, лягчэй вызначыць семантыку прозвішча. У далейшым аналізе вытворныя прозвішчы будуць толькі пералічвацца пасля іх утваральных. А цяпер пяройдзем да вылучэння лексічных груп этымонаў прозвішчаў.

Немалую групу складаюць назвы прадстаўнікоў жывёльнага свету - свойскіх і дзікіх жывёл, насякомых, птушак, рыб, па асацыяцыі з якімі ўзніклі адпаведныя прозвішчы (нярэдка яны даюцца чалавеку, які часта карыстаецца адпаведным словам): *Авечка, Акуневіч, Бобрык, Баброўскі, Бабрукевіч, Баран, Бірук* (< бірук 'воўк'), *Бугай, Бусловіч* і *Бусько* (< бусел), *Бычак, Варона* і *Вароніч, Варановіч, Вараноўскі, Ваўчкевіч, Верабей, Голуб, Гусак, Жук* і *Жуковіч, Жукоўскі, Заяц, Звяровіч, Іўка* (птушка), *Казёл (>Козел)* і *Казлоўскі, Камар* і *Камарэц, Конік* і *Канюк, Конюх, Карась* і *Карасік, Катовіч* (< кот), *Качук* ('самец качкі'), *Кніга* (птушка), *Куніца, Куршук (< Коршук* 'коршун'), *Лебедзь* і *Лебядка, Лісіцкі* і *Лісоўскі, Лосік* і *Лоська, Маркач* ('баран'), *Матыль, Мошка, Мурашка, Мышка (> Мышко)* і *Мышэйка, Мядзведзь* і *Мядзведзік, Павачка* (< пава), *Пацук, Пчала, Рак* і *Рачок, Рачко, Рачкоўскі, Ракевіч, Раковіч, Рысь* і *Рысюк (> Расюк), Рыбак, Собаль* і *Сабалеўскі, Сарока* і *Сарочынскі, Цяляк* (< цяля), *Чарток, Чыж* і *Чыжык, Шпак* і *Шпаковіч, Шпакоўскі.*

Блізкая да разгледжанай група прозвішчаў, этымоны якіх - назвы дрэў, раслін, іх частак і пладоў: *Альховік* і *Альшэвіч, Баравік* і *Баравы, Бацьвінка, Бурачок, Бярозавік, Валошка, Гарабіннік* (<(г)арабіна), *Гарошка, Груша* і *Грушэўскі, Грыб* і *Грыбоўскі, Грэцкі* (< грэчка), *Дамброўскі* (польск. domb - дуб) і *Дуброўскі, Дубовы, Дубіцкі, Дзягель* (від травы), *Зялёнка* ('грыб'), *Казляк* ('грыб'), *Касцянік* (< касцянкі, касцяніцы - ягады), *Качан* (капусны) і *Качаноўскі, Лазоўскі, Ліпскі, Ляшчынскі* і *Ляшчэўскі, Маліноўскі, Палясчук* і *Паляшчук* (< лес), *Рагоза* і *Рагозік, Салата, Травулька* (< трава), *Трыпуць* (< трыпутнік), *Цыбуль* і *Цыбуля, Цыбульскі, Шышко (<Шышка)*.

Шматлікую групу прозвішчаў складаюць назвы-характарыстыкі чалавека паводле знешняга выгляду (колер, інтэнсіўнасць праяўлення пэўных частак цела і пад.): *Бакач, Бакун* (< бок, бакі), *Барадзіч* (< барада), *Белы, Белабокі, Белішка, Бяленка, Бяляўскі, Бялушэвіч, Вялічка* (< вялікі), *Галавач* і *Галаўко, Галоўка, Гарбач, Гарбун* і *Гарбацэвіч, Губар* ('губаты'), *Гуз* ('маленькі, бы гузік'), *Дзябёлы* ('укормлены, сыты, дужы'), *Жабанос, Зубелік* ('зубаты, зубель'), *Карачун* і *Кароткі, Касач* ('касавокі'), *Кіслы* і *Кісель, Клубовіч* ('клубаваты'), *Клюк* і *Клюкач* ('даўганосы'), *Круглік, Кудравы* і *Кудрык, Лабач* і *Лабовіч, Лобік, Лупач* і *Лупінскі* ('лупаты, таўстагубы'), *Лялька* ('прыгажун'), *Малей* і *Малько, Махнач* і *Махнюк* ('махнаты'), *Мурын* ('чарнявы'), *Пузач* ('пузаты'), *Руда* і *Рудзько, Рудко, Руды, Слёзнік* ("цякуць слёзы"), *Смаглей* ('смуглы'), *Стаўбунік* ('высокі і тонкі'), *Сухабокі* і *Сухоцкі* ('сухі, худы'), *Тоўсцік* ('тоўсты'), *Тычыніч* (< тычына), *Ушкар* ('даўгавухі'), *Харошка* ('харошы'), *Худзік, Худзіна, Худобец* ('худы, худоба'), *Цішко, Чарневіч, Чарнецкі, Чарнушчын, Чарнушыч, Чарныш, Чарняк, Чарняўскі, Шчэрба* ('шчарбаты').

Блізкая да іх група прозвішчаў-характарыстык асоб па "ўнутраных" прыметах, разумовых якасцях, рысах характару, занятку, прафесіі, паходжання ці месцы жыхарства: *Агароднік, Багатырка, Балван* ('неразумны'), *Белякала* (< балакаць), *Бірук* ('нелюдзімы, ваўкаваты'), *Бітук* і *Бойка* (< біцца), *Болбат* (< балбатаць), *Бортнік* ('пчаляр, майстар па борцях'), *Бочка* ('малы, тоўсты', 'жлукта'), *Брыгадзір, Бугай* ('здаравяк'), *Будзько* і *Будзіловіч* (< будзіць), *Буднік* (< буда), *Булавецкі* ('галавасты'), *Бурачок* ('чырванатвары'), *Бусько* (< буські ('цалаванне') або ад бусел), *Бярозавік, Валынец* (з Валыні), *Весялуха, Вінакур* ('вінавар', 'самагоншчык'), *Вішнеўскі* (з Вішнёўкі ці з вішняку), *Вянскоўскі* (з *Венскіх*), *Вярхоўскі* (з вярхоўя), *Гаеўскі* (ляснік, даглядае гай), *Галіцкі* (з Галіцыі або ад голы 'бядняк'), *Ганчар, Гарабіннік* ('з гарабінніку', 'аматар (г)арабін'), *Гарбар, Гардзейка* ('горды, ганарысты'), *Гаркавы, Гаркавік* і *Гарчак* ('гаркаваты' ці 'той, хто невыразна вымаўляе гукі'), *Гаспадзін* (руск.), *Гаспадарчык* ('гаспадар'), *Глуханямы, Глушня* і *Глушэня* (глухі), *Гоман* (< гаманіць), *Горны* (< горы), *Гудзінскі, Гуда, Гудзень* (< гудзець), *Гузарык, Гузель* (гузаваты, маленькі), *Гураль* (польск. 'горац') і *Гурскі* (польск. гура - 'гара'), *Дабравольскі, Дамброўскі* (польск. = белар. *Дуброўскі* (з дубровы), *Дзейка* і *Дзейкала* (< дзейкаць- 'гаманіць'), *Дзярэчык* і *Дзяркач* (< драць), *Дзярэчанік* (< дзярэчанік - з м. Дзярэчын, ці ад дзярэча - 'крыклівы', 'той, хто дзярэ горла'), *Дзяткевіч* (ад дзятко < дзедка < дзеткавіч- 'нашчадак', 'дзедаўшчына'), *Доста* (ад "да ста" (лічыць) ці ад даста-ткова), *Дубанос, Дубатоўка* (ад "таўчы дубовую кару" - пры вырабе скуры), *Дудко* (< дудка - 'дудар'), *Жабрак, Жабрун* і *Жубрун* (< жабраваць), *Жак* (жак 'рыбалоўная прылада, нерад з двума крыламі') і *Жакоўскі, Жарко* (жарыць - 'моцна біць'), *Жарнак* ('той, хто робіць і насякае жорны', 'жарнасек'), *Ждановіч* і *Жданюк, Ждаюк* (< ждаць - 'чакаць'), Журко (< журыцца), *Жывуль* (< жывы - 'жвавы') і *Жывулька, Жыгалава* (< жыгала - 'металічны востры прут для прапякання дзірак у дрэве, косці'), *Жыдкевіч* і *Жыткевіч*, *Жыдок* (< жыд), *Жыжка* ('сумесь вадкіх і цвёрдых рэчываў у плыні'; 'вадкая частка стравы'), *Жылінскі, Жыліч* (< жыла), *Жыхар , Жыхарка, Заблоцкі* (польск. = белар. *Забалоцкі* 'той, хто жыве за балотам'), *Закшэўскі* (польск. Zarzewski = белар. *Закрэўскі* ('за Крэвам'), *Залеўскі* (польск. zalewa, zalewac - 'хлусіць, заліваць'), *Заморскі* (< за морам), *Зарэцкі* (< за рэчкай, за ракой), *Звяровіч* ('звераваты'), *Кавалевіч, Каваленка, Каваленя, Кавальчук* і *Кавалюк* (< каваль), *Казак* і *Казакевіч* ('казак' ці 'спрытны мужчына, падобны да яго'), *Казыра* (< казырацць - 'выхваляцца'), *Калеснік* ('майстар вырабляць колы, калёсы'), *Калодка* ('непаваротлівы'), *Калупайка* і *Калупайла* (< калупаць), *Калюта* (< калець - 'мерзнуць, зябнуць'), *Канавалік* (< канавал), *Капач* (< капаць), *Капылец, Капылевіч* (< капыл), *Каралевіч* і *Каралеўскі* ('уласцівы каралю'), *Карнач* і *Карнацэвіч* (< карнаць - 'укарочваць'), *Касіла* (< касіць), *Кішынеўскі* (< Кішынёў), *Косавец* (< Косава), *Крамнік* (< крама), *Красніцкі* і *Красоўскі* (< краса), *Крукоўскі* (< Крукава), *Крэўскі* (< Крэва), *Крэчка* (жан. да крэчат - 'драпежная птушка'), *Кудрык* (< кудры), *Кутасевіч* (< кутас), *Ламака* і *Ламека* (< ламаць), *Літоўка* (< Літва), *Ліхалет* і *Ліхацэвіч* (< ліха), *Лойка* (> *Лайко*) (< лаяць, лаяцца), *Лудзіч* (< лудзіць), *Лупач* і *Лупінскі* ('лупаты'), *Лухта, Лучко* (< лучыць), *Лушчык* (< лушчыць), *Ляхоўскі* (< лях), *Ляцкі* (< ляда, ляды), *Магільнік* (< магіла), *Маеўскі* (< май, майскі), *Мажэйка* (< mazas, літ, 'малы'), *Мазалеўскі* (< мазоліць), *Мазан* і *Мазец* (< мазаць), *Мазырка* (< Мазыр), *Макавецкі* (з в. Макі, *Макоўка*), *Малей* і *Малец, Малько* (< малы), *Маліноўскі* (з малінніку), *Мандрык* (польск. mondry - 'мудры, разумны'), *Манюк* і *Маняк* (< маніць), *Маскалевіч* (< маскаль), *Маташка* (< матаць), *Маўчун* (< маўчаць), *Махнач* ('махнаты'), *Месячык* (< месяц), *Мірскі* (з Міра), *Музычка* (< музыка), *Мукасей, Мулярчык* (< муляр), *Муравіцкі* і *Мураўка* (< мурава ці мураваць), *Мурашка* ('працавіты'), *Мурын* (польск. myrzyn - 'брудны, чорны, мурзаты'), *Мушынскі* (з мухамі - 'пыхлівы'), *Мысліцкі* і *Мыснік* (< мысліць), *Навакоўскі* (з Навакоў), *Нагуй* (< рус. нагой - 'голы' праз дэфектнае вымаўленне), *Надудзік* (> *Надуцік* 'надуты, надзьмуты'), *Налівайка* і *Наліўка* (< наліваць), *Наско* (< насіць), *Насута* (< нос), *Нахайка* (дэфектнае ад *Няхайка*), *Немец* (этнонім і 'нямко'), *Немчановіч* (ад немчаня), *Новік* і *Новыш* (новы), *Нядзвецкі* (дэфектыўнае ад *Мядзвецкі*, мядзведзь), *Нячай* (старажытнае *не чаяти*), *Пабірайка* (< пабірацца), *Пабудзей* (< пабудзіць), *Пазнанскі* (< Познань), *Пазняк* (< пазніцца), *Палтавец* (< Палтава), *Палубейка* і *Палубінскі*, *Палубок*, *Палубочак* (< палуба - 'падлога на караблі'), *Паляшчук* (з Палесся), *Панкевіч* (< пан), *Папко* (> Попка), *Папкевіч* і *Папковіч* (> Попкавіч), *Папоўскі* (< поп), *Паплаўскі* (< поплаў), *Папялуха* ('колер попелу'), *Парцяны* ('від тканіны'), *Пастушок* (< пастух), *Пацалуйка* (< пацалавацца), *Плюта* (< плюта - 'дрэннае надвор'е, слота'), *Плюшчэвіч* (< плюшчыць), *Пойліч* (< пойла), *Поўх* (< вуха, па уху > поўху: даць поўху 'даць аплявуху'), *Прасняк* (< прэсны), Прызван (рус. призван < призвать), *Прыступа* (< прыступіць), *Пузач* (< пуза), *Пупкевіч* і *Пупко* (< пуп, пупок), *Пучэк* (дэфектнае ад пучок, пук), *Пушка* (< пушка - 'пачак'), *Пякарскі* і *Пекар*, *Пякар*, *Рабчынскі* і *Рабко* (< рабы), *Радзько* і *Радкевіч* (> *Раткевіч*), *Радкоўскі, Радута* (< радзіць), *Раўган* (< раўці), *Рахунак* (< рахаваць), *Руда* і *Руды, Рудко, Рудзько* (< руды), *Рукан* ('рукасты'), *Русак* і *Русецкі* (< русы), *Рыжанкоў* (< рыжы, рыжанькі), *Рылко* (< рыць), *Рэзун* (< рэзаць), *Сагайдак* (цюрк. 'зброя конніка, чахол для лука'), *Садоўскі* (< сад), *Сарочынскі* (< Сарочынцы), *Сапун* (< сапці), *Сасноўскі* (тапонім Сасна, Сосна), *Свістун* (< свістаць), *Серада* ('дзень тыдня' ці 'сярэдні'), *Скобла* (< скабліць), *Скробат* і *Скрабатун* (< скрабатаць), *Славаціцкі* (< Славацічы), *Слёзнік* ('слязлівы'), *Слясарчык* (< слесар), *Смаглей* (дэфектнае ад *Смуглей* < смуглы), *Смолік* (< смала, смольны), *Спадарац* (< спадар), *Стальмашок* (< стэльмах), *Сталярчук* (< сталяр), *Стаўбунік* ('стаўбунаваты'), *Стаўпец* (Стоўбцы, Стоўпцава), *Стралкоўскі* і *Стралец, Стырнік* ('рулявы' ад стырно 'руль'), *Судніцкі* (< суды - 'посуд'), *Сурмач* (< сурма - 'музычны інструмент', 'той, хто іграе на сурме, трубач'), *Сухадольскі* (< *Сухадол*), *Сухоцкі* і *Сухі, Суша, Сушко, Сушчэвіч* (< сухі), *Сявень* (< сеяць), *Сячэйка* (< сячы), *Таболіч* і *Табулевіч* (< табола, табала - гукаперайманне), *Таварэвіч* (< тавар), *Такарскі* (< токар), *Тараруk* (< тарара - гукаперайманне), *Тарэлка* (руск. тарелка - 'талерка'), *Татарук* і *Татарын* (< татары), *Трывулька* ('трывалы'), *Трацяк* і *Траян* (< тры - лічэбнік), *Трушко* (< трусіць- 'хутка ісці дробнымі крокамі'), *Тукальскі* і *Тукала* (< тукаць- 'стукаць'), *Тупік* (< тупы), *Туптайла* (< туптаць), *Туравец* (< Тураў), *Тырля* і *Тырлюк, Турлюк, Турлай* (< тырля - 'выган на пашы'), *Урбан* і *Урбанчык, Урбановіч* (лац. urbus 'горад'), *Урублеўскі* (польск. Wrublewski ад wrubel - 'верабей' - 'хуткі, лёгкі'), *Утлік* (< утлы, вутлы - 'слабы, хілы), нядужы', *Ушкар* (< ушка, вушка - 'вушасты'), *Хадакоўскі* (< хадак, хадок), *Халупка* (< халупа - 'хата'), *Харошка* (< харошы), *Харук* і *Харуба* (рус. хорюк, хорь 'тхор'), *Хацян* (< хацець), *Хвастовіч* (< хвост), *Хіхлун* і *Хіхол* (< хахол - 'украінец'), *Храпавіцкі* (< храпці, храпун), *Худзік, Худзізна, Худобец* (< худы, худоба), *Царык* (< цар), *Цвіковіч* (< цвік), *Цівунчык* (< цівун), *Цыбуль* і *Цыбульскі* ('цыбаты'), *Цялінскі* і *Цялях* (< цяліцца), *Чапкевіч* і *Чапковіч* (< польск. czapka - 'шапка'), *Чаплінскі* і *Чапля, Чапялевіч* (< чапяла), *Чарневіч, Чарнецкі, Чарнушчыц* і *Чарнушка, Чарныш, Чарняк, Чарнякоўскі* (< чорны), *Шадэлка* (польск. szydelka - 'шыла'), *Шалястовіч* і *Шэлест, Шапавал, Шапец* і *Шаповіц* (< шапка), *Шаптун* (< шаптаць), *Шарук* (< шары- 'шэры'), *Шаршановіч* (< шэршань), *Шастак* (< шосты, шэсць), *Шашко* (< шашка), *Шокала* (< шокаць), *Шпаковіч* і *Шпакоўскі* (< шпак), *Шугала* і *Шугаль* (< шугаць), *Шукайла* (< шукаць), *Шумец* і *Шумовец, Шумскі* (< шум, шума), *Шушкевіч* і *Шушка* (< шышка), *Шчурка* (< шчур - 'прашчур'), *Шчэрба* ('шчарбаты'), *Шыдлоўскі* (польск. szydelka - 'шыла'), *Шырко* (< шырокі), *Шыркавец* (< Шыркава), *Шыцько* (< шыць), *Шышко* (< шышка або ад шыш - 'кукіш'), *Шэйка* (рус. шейка - 'шыйка'), *Яднач* (польск. jeden - 'адзін'), *Язерскі* (польск. jezioro - 'возера') = бел. *Азёрскі, Азяранін.*

# Ларыса Геніюш - гэта вера ў Беларусь

4 кастрычніка ў Лідскім бібліятэчным філіяле № 3 у мікрараёне Маладзёжны быў адкрыты памятны куток Ларысы Геніюш.

Тут устаноўлены знаёмы ўсім бюст паэткі работы скульптара М. Інькова, развешаны банэры з вершамі і адкрыта выстава твораў.

На пачатку імпрэзы памінальную малітву па Ларысе, Янку і Юрку Геніюшах па-беларуску прачытаў айцец Уладзімір Камінскі. Ён жа сказаў і слова пра жыццёвы і літаратурны вычын Ларысы Антонаўны.

Дапоўніў айца Ўладзіміра Міхась Скобла, асноўны даследчык жыцця і творчасці Л. Геніюш. З песнямі на словы Л. Геніюш выступіла Тацццяна Матахонава з Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

Верш, прысвечаны Ларысе Геніюш, а таксама пераклад верша паэткі на рускую мову прачытаў лідскі паэт Пятро Макарэвіч.

Вершы Ларысы Геніюш чыталі і вучні суседняй лідскай СШ № 13.

Песню лідскага кампазітара С. Бугасава на словы Ларысы Геніюш выканаў хор лідскай царквы Ўсіх Святых.

Завяршыў імпрэзу лідскі бард Сяржук Чарняк, які выканаў дзве песні на словы Л. Геніюш.

Як коратка, то і ўсё.

Трэба аднак удакладніць гісторыю самога бюста. Паводле легенды гэта той самы бюст, з якога была знята форма і адліты бюсты ў метале для Зэльвы і Старых Дарог. Бюст доўгі час захоўваўся на сядзібе БНФ у Менску, пакуль не быў перададзены Анатолем Белым, светлая памяць яму, у Лідскі гістарычна-мастацкі музей для ўстаноўкі ў літаратурным філіяле. Але для філіяла, які размяшчаецца ў доміку Таўлая, бюст аказаўся завялікі. Праз некаторы час вырашана было ўстанавіць бюст у 3-м філіяле бібліятэкі, а раптам калі і імя Л. Геніюш удасца яму надаць.



















Пастамент зрабіў уласнымі рукамі старшыня Лідскай арганізацыі ТБМ Лявон Анацка. Банэры былі зроблены на заводзе "Ліпласт".

Астатняе легла на супрацоўнікаў бібліятэкі.

Такім чынам, на Лідчыне з'явіўся яшчэ адзін літаратурны асяродак і памятная літаратурная мясціна.

Устаноўка бюста дадала веры ўсім лідзянам, што мы ўсе разам дойдзем да Беларусі, пра якую так марыла Ларыса Геніюш.

*Наш кар.*

# Зоську Верас успаміналі гарадзенцы

У Гародні адзначылі 120-годдзе з дня народзінаў Зоські Верас.

Пры музеі Максіма Багдановіча ў некалькі зменаў праходзіць прыём студэнтаў, дзе з імі праводзілася экскурсія і паказвалася касцюмаваная кампазіцыя па эпісталярнай спадчыне Зоські Верас.





Апрача трох паказаў пастаноўкі ў памяшканнях музея, усе аматары беларускага духу змаглі прысутнічаць на ўрачыстасцях вечарам у выставачнай мастацкай зале Гародні, дзе прагучала песня кампазітара Яўгена Петрашэвіча "Зоська Верас", адмыслова напісаная для мерапрыемства.

Вечарыну падрыхтаваў музей Максіма Багдановіча супольна з каледжам мастацтваў. У гарадской выставачнай зале на вуліцы Элізы Ажэшкі навучэнцы каледжа паказалі паэтычную пастаноўку, прысвечаную Зосьцы Верас і Максіму Багдановічу, якія ў 1916-17 гадах працавалі ў Менску ў Таварыстве дапамогі пацярпелым ад вайны. Іхнія ролі выканалі Марыя Пстыга і Аляксей Бойка. На вечарыне прагучалі творы Зоські Верас і ўспаміны людзей, якія ведалі яе і падтрымлівалі ліставанне.



Успамінае прафесар Аляксей Пяткевіч:

- Зоська Верас - літаратурны псеўданім Людвікі Сівіцкай. Яна жыла ў Гародні з 1909 да 1913 году, закончыла гімназію і паехала вучыцца ў Варшаву. Была актыўнай удзельніцай гарадзенскага гуртка беларускай моладзі. Пазнейшае жыццё яе было звязанае з Вільняй. Там яна памерла і была пахавана ўвосень 1991 года.

Прафесар Аляксей Пяткевіч апавёў пра наведванне ёю Гародні ў 1972 годзе. Хацелася паказаць ёй новы горад, казаў ён. Узяў для гэтага таксоўку, але хутка заўважыў, што ёй нецікава:

- А калі даехалі да гістарычнага цэнтру, яна сказала: "Давайце машыну адпусцім". І пайшлі мы па старых вулачках, яна добра ўспомніла горад і, натуральна, накіравалася туды, дзе жылі яе дзед і бабуля. Гэта на рагу вуліц Кірава і Сацыялістычнай. Яна зазірнула ў арку, зайшла ў двор і пачала разгублена таптацца на месцы. Дзе ж яно ўсё падзелася? Здаецца ж тут, але нешта не тое: нейкія хлеўчукі з'явіліся, раней былі дрэвы, кусты - цяпер гола. Таму яна нават не была зусім упэўнена, што гэта было тут. Мы прайшліся па Гараднічанскай вуліцы, дзе быў дом, у якім яна жыла з маці.

Міхась Скобла рыхтуе да друку двухтомнік успамінаў і лістоў Зоські Верас. Ён прывёз сшытак, у якім Зоська Верас пакінула звесткі пра беларускіх дзеячаў, многіх з якіх ведала, якім не знайшлося месца ў Беларускай савецкай энцыклапедыі. Міхась Скобла прывёз таксама паказаць гарадзенцам копію апошняга ліста Зоські Верас, дасланага мастаку Вячку Целешу, у якім пытанне: як справы ў Гародні?

*Паводле Радыё Свабода.*





# Да 100-годдзя Максіма Танка



Грамадскае аб'яднанне
"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"
220034, г. Мінск вул. Румянцава, 13, тэл. 284-85-11, разліковы рахунак
№ 3015741233011 у адд. №539 ААТ "Белінвестбанк", г. Мінска, код 739

14 верасня 2012 г. №66

Сп. П.П. Латушку,
Міністру культуры Рэспублікі Беларусь
пр. Пераможцаў, 11, 220004, г. Мінск

Аб музеяфікацыі родных мясцін
Максіма Танка

Шаноўны Павел Паўлавіч!

У сувязі з юбілеем народнага паэта Беларусі, палітычнага і грамадскага дзеяча Максіма Танка (Яўгена Скурко) ТБМ прапануе ўзяць пад дзяржаўную ахову дом, дзе нарадзіўся паэт, у вёсцы Пількаўшчына разам з унікальнымі дубамі каля яго, а таксама магілы Максіма Танка і яго жонкі ў вёсцы Новікі Мядзельскага раёна.

Было б добра ў хаце, дзе нарадзіўся паэт, і якая пакуль знаходзіцца ў добрым стане, адкрыць мемарыяльны музей у якасці філіяла музея гісторыі беларускай літаратуры.

З павагай,
старшыня ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны" А. Трусаў.



МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ | МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

Праспект Пераможцаў, 11, 220004, г. Мінск | Проспект Победителей, 11, 220004, г. Минск

Тэлефон (017) 203 75 74 | Телефон (017) 203 75 74
Факс (017) 203 90 45 | Факс (017) 203 90 45

e-mail: ministerstvo@kultura.by | e-mail: ministerstvo@kultura.by

02.10.2012 № 01-19/97/[illegible]
На № 66 ад 14.09.2012

ГА "Таварыства беларускай мовы
імя Францішка Скарыны"

Аб разглядзе звароту

Міністэрства культуры разгледзела зварот адносна надання статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці дому ў в. Пількаўшчына, дзе нарадзіўся народны паэт Беларусі Максім Танк, а таксама яго магіле ў в. Новікі Мядзельскага раёна Мінскай вобласці.

Прапанова аб прапрацоўцы пытання накіравана ў Мінскі абласны і Мядзельскі раённы выканкамы.

Разам з тым паведамляем, што парадак надання статусу гісторыка- культурнай каштоўнасці вызначаны заканадаўствам Рэспублікі Беларусь ў сферы аховы спадчыны.

Паводле пункта 2 артыкула 21 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь" (далей - Закон) юрыдычная або фізічная асоба, што выявіла матэрыяльны аб'ект або нематэрыяльнае праяўленне творчасці чалавека, прадугледжаныя пунктам 1 гэтага артыкула, уносіць у Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь у пісьмовай форме прапанову аб наданні выяўленаму матэрыяльнаму аб'екту або нематэрыяльнаму праяўленню творчасці чалавека статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці з абавязковым яе абгрунтаваннем.

Згодна з пунктам 9 Палажэння аб парадку вядзення Дзяржаўнага спісу гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь (далей - Палажэнне), зацверджанага пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 15.06.2006 г. № 762, прапанова аб наданні матэрыяльнаму аб'екту статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці ўносіцца ў пісьмовай форме з абавязковым яе абгрунтаваннем.

Афармленне матэрыялаў прапановы аб наданні статусу гісторыка- культурнай каштоўнасці вызначана Інструкцыяй аб парадку фіксацыі, навуковай апрацоўкі і мастацкай ацэнкі выяўленых матэрыяльных аб'ектаў і нематэрыяльных праяўленняў творчасці чалавека, якія могуць уяўляць гісторыка-культурную каштоўнасць, зацверджанай пастановай Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь 31.05.2007 № 26.

Улічваючы вышэйсказанае, прапануем далучыцца да падрыхтоўкі абгрунтавання неабходнасці надання статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці памянёным аб'ектам сумесна з упраўленнем культуры Мінскага аблвыканкама і аддзела культуры Мядзельскага райвыканкама.

Намеснік Міністра В.І. Кураш.

***Безумоўна, што першымі далучыцца да гэтай справы мусяць сябры ТБМ Мядзельскага раёна.***

# У магілёўскай арганізацыі ТБМ

Першыя заняткі гуртка беларускай мовы ў кастрычніку Магілёўская арганізацыя ТБМ прысвяціла дню нараджэння нашага народнага паэта Ніла Гілевіча. Гэта былі хвалюючыя хвіліны сустрэчы з яго паэзіяй, песеннымі творамі, відэазапісамі з удзелам творцы. Цешылі слых гукі чароўнай беларускай мовы, люлялі нас песні на вершы паэта і падарылі нам хвіліны сапраўднага шчасця. Прысутныя з задавальненнем спявалі і размаўлялі пра творчасць паэта, пра складанасці нашага часу і яго вялікі ўнёсак ў справу Адраджэння. Многія з сябраў з ТБМ ганарацца незабыўнымі асабістымі сустрэчамі з паэтам.

Успамінамі пра свайго настаўніка падзялілася паэтка Тамара Аўсяннікава. Яна выказала свае ўражанні ад яго твораў, захапленне яго паэтычнымі вобразамі і дасканаласцю паэтычнага стылю. Цёплыя пачуцці да гэтага чалавека яна нясе праз усё сваё жыццё.

Не можа не выклікаць глыбокай павагі ясная і паслядоўная грамадзянская пазіцыя Ніла Сымонавіча. Білася ў сэрцы прысутных яго паэтычнае слова, балеў яго боль - за Беларусь ён гатовы змагацца з усім сусветам. Кожны з прысутных быў пад уплывам творчасці паэта.

*...Нас могуць*
*Зневажаць і абражаць,*
*Нас могуць*
*Не любіць і ненавідзець,*
*Але мы мусім*
*Цвёрда помніць-знаць:*
*У нас ёсць Нёман.*
*І Дзвіна,*
*І Прыпяць.*
*Нас могуць*
*Чорным брудам палівать,*
*Культываваць бяспамяцтва,*
*Бяспраўе,*
*Але мы мусім*
*Цвёрда помніць-знаць:*
*У нас ёсць Полацк,*
*Тураў*
*І Заслаўе.*
*Нас могуць*
*Ачмураць і падкупляць,*
*Штодзень даваць*
*Цацанкі-абяцанкі,*
*Але мы мусім*
*Цвёрда помніць-знаць*
*Наказ Францішка,*
*Кастуся*
*І Янкі. ....*

***Алена Асмакоўская.***

# Помнік Адольфу Янушкевічу





Споўнілася! Св. Яна, 19:30 (3.10.2012).

У траўні 2006-га, калі мы з Веранічкай знайшлі магілу Тэклі Янушкевічавай, мамы Адольфа Янушкевіча, "Наша слова" змяшчала фотаздымак школьнікаў (сярод іх майго сына, 9-класніка Міколкі), якія прыйшлі да Дзягільні на Старыя Панскія могліцы, каб высекчы кусты. Цяпер вось, больш як праз шэсць гадоў, дасылаю фотаздымкі, якія адлюстроўваюць найвялікшае духовае дасягненне Брацтва на Літве, высілкамі якога ўсталяваны валун з Эпітафіяй нашаму народнаму герою Адольфу Янушкевічу.

***Ганна Матусевіч.***

***Помнік герою паўстання 1831 года Адольфу Янушкевічу, устаноўлены 3 кастрычніка 2012 г.***

# Скарына - Гутэнберг Беларусі





У рамках Тыдняў Германіі ў Нацыянальнай бібліятэцы адкрылася выстава "Францішак Скарына: падарожжа на радзіму". На ёй упершыню ў Беларусі экспануецца Біблія Францішка Скарыны з Верхнелужыцкай навуковай бібліятэкі нямецкага Гёрліца. Выстава ў Менску, а потым у Нясвіжы праходзіць пад патранатам амбасады Германіі і беларускага Міністэрства культуры.

Біблія Францішка Скарыны з Гёрліца складаецца з 11 сабраных у адзін канвалют кніг, якія першадрукар выдаў у Празе ў 1517-1519 гадах. Сярод іх ёсць такія, якіх не мае беларуская Нацыянальная бібліятэка. Напрыклад, кніга Быцця з гравюрай на тытульным аркушы, а таксама чатыры кнігі Царстваў са славутым партрэтам Скарыны. Гёрліцкі канвалют - унікальны антыкварны рарытэт Верхнелужыцкай навуковай бібліятэкі. Спачатку ён трапіў з Прагі ва Ўроцлаў, а затым апынуўся ў Гёрліцы, дзе яго знаходжаньне дакументальна пацверджана з 1615 году.

Сітуацыя адметная тым, што цяпер на выставе ў Беларусі апынулася разам 21 кніга Бібліі Скарыны, разам з дзесяццю, якія належаць Нацыянальнай бібліятэцы.

Падчас адкрыцця выставы дырэктар Верхнелужыцкай бібліятэкі Матыяс Вэнцаль адзначыў, што Біблію Скарыны знайшоў у 2003 годзе падчас адной з выставаў вучоны Норберт Рандаў:

- Расказваючы сёння немцам пра Францішка Скарыну і яго дасягненні, я заўсёды кажу, што для беларускай культуры ён адыграў гістарычна тую ж ролю, што і Гутэнберг і Лютар для Германіі.

*Алесь Дашчынскі,*
*Радыё Свабоды.*

# Прэзентацыя новых кніг Зянона Пазьняка




У Палацы культуры і навукі ў Варшаве прайшла сустрэча з Зянонам Пазьняком. Вядомы палітык і пісьменнік прэзентаваў сабраўшымся дзве кнігі, а таксама адказаў на шматлікія пытанні публікі.

Апрача кнігі "Абарона Курапатаў. Народны мемарыял" Зянон Станіслававіч прывёз у Варшаву сваю новую публікацыю пад назвай "Добрая фатаграфія", якая выйшла ў кніжнай серыі "Гарадзенская бібліятэка":

- Тое, што я так нечакана выйшаў на фатаграфію, здолеў вярнуцца да мастацтва і зрабіць 56 такіх эсэ пра фатаграфіі, ведаючы, што ніхто на гэтую тэму ў Беларусі не пісаў, то гэта практычна першая кніжка на падобную тэму, сабраная сістэмна. Для сябе я адчуў творчае задавальненне, а ўжо як там удалося, будуць меркаваць чытачы.

Падобныя мерапрыемствы ў Варшаве становяцца ўжо традыцыяй. Ініцыятарам і арганізатарам чарговай сустрэчы з Зянонам Пазьняком выступіла арганізацыя Беларуская народная памяць.

***Ганна Мордань,*** *Р. Рацыя.*



№ 41 (1088) 10 КАСТРЫЧНІКА 2012 г. НАША СЛОВА

# ЦІ ЗДЫМАЦЬ ШАПКУ "ЭРНЭСТУ І ЗДЗІСЛАВУ"?

Прыкідваў, як бы выкраіць час (не хацелася адрывацца ад працы над заканчэннем свайго апошняга гістарычнага рамана, якому аддадзены гады жыцця), каб усё ж напісаць пра артыкул Уладзіслава Лупакова "У дапаўненне слоў Леаніда Лыча. Погляд расіяніна" (НС №38, 2012), надта ж тэму цікавую і сучасную аўтар закрануў, як у наступным нумары "НС", 39-м, убачыў яшчэ адзін па-свойму адметны публіцыстычны твор, спадара Міколы Шаравара - "Як нашы гісторыкі змагаюцца за чыстату (чысціню, відаць.- Э.Я.) нацыянальнай ідэнтычнасці", дзе зноў згадваецца мая асоба. Ды колькі разоў і ў якім кантэксце! То даводзіцца "рэагаваць". Каб хаця б удакладніць - дзеля чаго і перад кім мне гэтак агрэсіўна прапануецца "зняць шапку". Пакаяцца, выходзіць? Як "нацдэмам" у 1937-м? Эх, колькі мною прачытана, спадар Мікола, палымяных публіцыстычных опусаў таго часу да "нацдэмаў": "Пакайцеся! Мала! Яшчэ пакайцеся!" І чым яно скончылася? Да гэтага часу яшчэ грамадства не ачомалася.

А гэты выраз у загалоўку: "нашы гісторыкі"... Ён іранічны ці ўсур'ёз?

А што за штука такая - "чыстата нацыянальнай ідэнтычнасці"?

Хацелася б большай дакладнасці ва ўжыванні Слова. Мы ж, аматары мастацкай літаратуры ці аматары-палітолагі, пішам у газету, якая займаецца пытаннямі функцыянавання, жыццядзейнасці беларускай мовы ў сваёй нацыянальнай дзяржаве, а ўсё астатняе - дапасаванне, неабходнае ці не вельмі.

То, каб пазбегнуць і ў далейшым залішніх двухсэнсоўнасцей-непаразуменняў, у якасці прадстаўніка якога "творчага цэха" хто выступае, і наколькі гэта адпавядае зместу прадстаўленага тэксту, няблага б разабрацца з азначэннямі.

Пачнем з "лягчэйшага". Спадар У. Лупакоў пазначыўся "аматарам сацыялогіі". І сапраўды, ён як аўтар у асноўным здолеў (нават з літаратурным бляскам!) вытрымаць "параметры" гэтай надзвычай пакуль хісткай навукі аб дзейнасці (функцыянаванні) ўстойлівых сацыяльных груп і развіцці сацыяльных працэсаў у грамадстве, хоць ягоны артыкул, зразумела ж, публіцыстычны. Заўважна праўда, што аўтар карыстаецца ці не ўласнымі толькі сацыялагічнымі назіраннямі і ад таго больш грунтоўнае асвятленне праблемы яшчэ наперадзе. Я ж хачу сказаць пра два літаральна моманты, не лічачы таго, што аўтар забыўся пазначыць двукоссямі маё выказванне, калі цытаваў артыкул "Калі ў Гісторыю стрэліць..." Сапраўды, я напісаў, што рускамоўныя кнігі В. Дзяржынскага, выглядае, разлічаны хутчэй на расійскую аўдыторыю, хоць нам і патрэбны Беларускі гістарычны мартыралог. Але з тэксту У. Лупакова выглядае, нібыта я адмоўна стаўлюся да "трасянкі" - гістарычнай хваробы, дадае аўтар, беларусаў. На самай жа справе ў мяне погляд некалькі іншы. Не толькі ў нас, у любога народа назіраюцца "моўныя пераходнікі", і такі працэс натуральны не толькі ў памежных рэгіёнах Гэта непазбежна і ў перыяд станаўлення нацыі як духоўнага "сплаву" з рознаплямённых прадстаўнікоў, і ў працэсе ўзаемадзеяння з іншымі нацыямі, асабліва з суседнімі. Ажно да такой, бывае, ступені, што пачынаецца змаганне з "барбарызмамі". Успомнім да прыкладу змаганне польскіх інтэлектуалаў-патрыётаў канца 15-га і ўсё 16-е стагоддзе супраць засілля "чэхізмаў" і нават "русчызны" (лаціна сама нейк засярodзілася ў асноўным у касцёле і акадэмічных аўдыторыях), барацьбу патрыётаў Расіі на чале з Ламаносавым супраць "германізмаў", а крыху пазней і "галіцызмаў" (афранцужанасці) ці сучасныя даволі суровыя захады ажно ўраду Францыі супраць злоўжывання амерыканізмамі - англіцызмамі.

Што да нас, беларусаў, то мы зараз знаходзімся ўвогуле ва ўмовах беспрэцэдэнтнай, відаць, у свеце ў мірны час! нацыянальнай моўнай катастрофы, калі свядомым людзям, патрыётам даводзіцца з усіх сіл збіраць у адзінае ажно душу нацыі, у тым ліку як абярог, талісман - яе Слова, і калі яшчэ многім і многім вымаўленне яго даецца з высілкамі, падобнымі на тыя, калі хто перажыў інсульт. Тут кожнае новае вымаўленае па-беларуску слова - пазітыўны працэс і перамога духу.

З чым у артыкуле У. Лупакова можна паспрачацца, дык адносна імперскасці-неімперскасці настрояў рускіх у Беларусі. Калі ўзяць расійскую дыяспару ў цэлым, то, безумоўна, такіх, імперскіх у сэнсе, настрояў у большасці, здаецца, сапраўды няма. А вось што да чыноўнікаў, асабліва ў верхнім эшалоне ўлады, многія з якіх і былі пасланыя з "Цэнтра" з мэтай "пресекать националистические поползновения", тут справа больш складаная.

Відаць, У. Лупакову не хапае пакуль і доследаў, каб больш акрэслена выдзеліць у "рускай" дыяспары свае пэўныя сацыяльныя групы, падобна хаця б, як гэта зроблена ім адносна беларускага грамадства. А то ж з яго высновы атрымліваецца, што дыяспара нібыта амаль аднародная і стараецца захоўваць "сваё, каб не асімілявацца". На самай жа справе, наколькі можна гэта адсочваць звонку, ніводная, нават самая ідэйна натхнёная дыяспара такой не бывае. Найбольш яскравы прыклад - яўрэйская, члены якой з маленства і з пакалення ў пакаленне выхоўваліся ў рэжыме духоўнай адасобленасці ад насельніцтва краіны, дзе яны атабарыліся: свой бог, свае звычаі, свая мова ў асяродку "сваіх" і галоўная мэта - выжыць, каб вярнуцца "ў Ерусалім", нават развіталіся гэтым заклінаннем: "Сустрэнемся ў Ерусаліме". І гэтая наўмысная адасобленасць гоямі-тубыльцамі ўрэшце заўважалася, і ўзнікала на першы погляд містычная непрыязнасць, а то і варажнеча да "народа Ізраілева", дзе б ён ні знаходзіўся, нават у касмапалітычных, здавалася б, ЗША, калі меркаваць па літаратурных творах ва ўсякім разе гэтай краіны імігрантаў.

Тым не меней можна прывесці нямала прыкладаў не проста асіміляцыі ажно і самых выдатных прадстаўнікоў гэтага таленавітага і ўпартага ў дасягненні пастаўленай мэты народа, а і актыўнага непрыняцця імі прапрапрадзедаўскіх духоўных установак і звычаяў, замацаваных ажно ў культавай, свяшчэннай кнізе. Выпадкаў, калі з'язджалі ад нас "сыны Ізраілевы", абяцаючы адзін аднаму "сустрэцца ў Ерусаліме", а сустракаліся ў ЗША, Італіі, а то і ў Германіі, вядома нямала, тут жа згадаю толькі адзін, вельмі ж красамоўны. Калі знакаміты паэт, лаўрэат Нобелеўскай прэміі Іосіф Бродскі, якога прымусілі эміграваць з СССР, потым адмовіўся ўзяць ізраільскі пашпарт і нават прыехаць у Ерусалім хаця б на літаратурныя сустрэчы з чытачамі за добры ганарар.

Не думаю, што і прадстаўнікі рускай дыяспары так ужо ў большасці настроены захоўваць сваю племянную ідэнтычнасць, каб пажыўшы недзе ў іншых землях і краінах, вярнуцца.

Хоць, канешне, асімілявацца да беларускасці ў нашым затлумленым краі куды цяжэй, чым стаць амерыканцам ці германцам. Для гэтага ажно ці не самахварнасць патрэбна. Ці любоў у каго ўзнікне, каханне. Але гэтага ўжо ніякая сацыялогія не здольная прадбачыць.

Што да Міколы Шаравара, то аўтар пазначыўся "палітолагам і аматарам гісторыі. Паміж тым у артыкуле "Як нашы гісторыкі змагаюцца..." паліталогіі, у сэнсе паслядоўнага, дакладна структураванага вывучэння метадаў мастацтва кіраваць людзьмі, у вышэйшым азначэнні - грамадствам, у тэксце аніяк не заўважаецца, таму пра яе і не будзем. Ну, захацелася пахваліцца спадару, магчыма, каб надаць сабе значнасці - няхай "Аматар гісторыі"? А гэта як разумець? Бо падабаецца спадару, значыць, чытаць творы аб мінуўшчыне? Бо інакай жа трэба было б пазначыцца, прыкладам, "аматар-даследчык гісторыі". Ці краязнаўцам, таксама ж пачэсна. "Аматар", бо сам жа спадар Мікола, падобна, нічога не даследваў. Не працаваў з першакрыніцамі ў архівах,не звяраў дакументаў з іншымі. А так: падабаецца- не падабаецца. Прычым настойвае: астатняя публіка без грунтоўных доказаў павінна ацэньваць нешта так, як наш аўтар. Прыкладам, працу Здзіслава Сіцькі "Утроп Літвы", якая яму не спадабалася, бо там па першакрыніцах выверaныя факты не супадаюць з яго ўяўленнямі, абвяшчае "міфам". Хоць гісторыку трэба тады абвяргаць першакрыніцы, на якія спасылаецца даследчык. Бо З. Сіцька - якраз вельмі падрыхтаваны і чэсны даследчык, і кніга яго - каштоўны здабытак айчыннай гістарычнай навукі. Гэта на ўзроўні польскага Г. Лаўмянскага і расейца Л. Гумілёва. Гэтая праца Дзяржаўнай прэміі вартая. Але ж у нашага аўтара, што не супадае з яго меркамі, да таго непрыязнасць, а то і варажнеча з прыклейваннем ярлыка - "русісты нашай гісторыі", а то і калабаранты. Вельмі слушна, мудра напісаў пра гэта сп. Уладзіслаў Лупакоў!

Тым не меней, дзеля падтрымання так неабходнай нам усім талерантнасці і нацыянальнай згуртаванасці паспрабую больш дэталёва асэнсаваць асноўныя пастулаты нашага аўтара.

1. Вось паважаны Мікола Шаравар абвяшчае і ў даволі, канешне, брутальнай манеры, што верыць такому-то і такому. Перапрашаем, аднак, спадара, гэта яшчэ праходзіць у асяродку вернікаў рэлігійных канфесій, а ў астатніх выпадках патрабуюцца доказы, на грунце правераных і неправераных фактаў. Таму, скажам, калі спадар, як ні ў чым не бывала працягвае славаслоўе В. Дзяржынскаму, калі ўжо даказана, што той дзеля падмацавання сваёй версіі "ліцвінства" напісаў, нібыта Францішак Скарына назваўся "ліцвінам", калі ёсць дакументы, што славуты наш першадрукар пазначаўся "русінам з Полацка", тады як пачынае выглядаць сам?

2. "Забараняе" маскалям "цягнуць іх коўдру на наша Палессе", дзе, заяўляе, "ні панізьнікамі, ні беларусамі многія не лічаць сябе". Выходзіць спадар мае на тое выверaную статыстыку, вынікі адпаведнага сацыялагічнага даследвання?

Далей-болей: ці не ў запале зноў такі дагаворваецца ўжо ўвогуле да сцверджання, што ў канцы і 18 стагоддзя нялюбых яму "беларусінаў" нідзе не было. Доказ? Зноў спасылка на некага. У дадзеным выпадку на прафесара Л. Лыча, які знайшоў публікацыю 1790 года, у якой таксе паведаміў нейкі расійскі віца-адмірал. Але ж у прыведзенай М. Шараварам цытаце і ліцвіны не згадваюцца, а толькі прадстаўнікі веравызнанняў.

Не ведаю, дзеля чаго той мараход-адмірал апынуўся ў нашых сухадольных краях, а вось другі расіец, згодна з "Табелем аб рангах", генерал і ён жа сенатар Дзяржавін Гаўрыіл Раманавіч усяго праз некалькі гадоў пасля (1796) з'явіўшыся да нас да загаду імператара Паўла, сына Кацярыны Другой, з інспекцыяй дзеля высвятлення прычын голаду, асабліва ў Менскай губерні, аказаўся на гэты конт больш удачлівым. Чалавек адказны і справядлівы, ён, па-першае, у выніку расследавання зрабіў выснову: ад таго голад, што ў "забраном крае" памешчыкі, атрымаўшы ад Кацярыны маёнткі, пачалі з дапамогай арандатараў бязлітасна рабаваць тубыльцаў - "пасялянаў", харчовае зерне ў шматлікіх вінакурнях перапрацоўваючы ў гарэлку. Так што, *"приехав в <u>Белоруссию</u>* (падкрэслена мною, Э.Я.), - напісаў Дзяржавін у справаздачы імператару, (гэта па-другое) - *самолично дознал великий недостаток поселян в хлебе... самый сильный голод"*. Справаздача генерала-інспектара мела загаловак: "Мнение об отвращении в Белоруссии голода..."

Што да этнічнай саманазвы жыхароў нашай краіны ў Сярэдневеччы, да гэтага нельга падыходзіць з меркамі сённяшняга часу, у век звышкамунікату.

У вузкім асяродку сурodзічаў і суседзяў людзі, асабліва "простага" стану ведалі хіба якая іхняя вера (ад папа), ды хто над імі ўсімі вялікі князь, ну і хіба больш смутна пра вялікакняскае атачэнне, адкуль спярша ж і ўсталёўвалася, умоўна кажучы, "нацыянальная" назва дзяржавы, а ад яе ўжо - насельніцтва. У нашым выпадку ў вышэйшым коле ўлады тады запанавалі ліцвіны, гэта было б наіўна адмаўляць. Выходзіла, хто атрымліваў права называцца "ліцвінам", меў і вельмі значныя прывілеі. Маскоўцы таму і называлі так пануючае саслоўе Вялікага Княства Літоўскага - ліцвінамі, у тым ліку і ў першуто чаргу вайскоўцаў, бо зноў жа выгадна: чужынцы, захапілі "рускую" зямлю, якая належыла продкам іхняга гасудара.

Згодна з высновамі Мікалая Улашчыка, а гэта не "аматар гісторыі", а слынны вучоны-крыніцазнаўца, доктар гістарычных навук і старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі Акадэміі навук СССР (у Менск яго не пускалі як закаранелага нацдэма) на гэты конт заўважыў: *"У сярэдзіне XVI ст., калі прыбліэна афармлена легенда* (пра ліцвінства, Э.Я.) *цалкам... наша і літоўская шляхта вельмі зжылася, і нашы звычайна звалі сябе ліцвінамі (шляхта і магнаты, а не народ...)".*

Пазней, пасля Люблінскай уніі, стала выгадна. пераймянавацца "палякамі", прыкладам, як продкі Адама Міцкевіча, на якога спасылаецца М. Шаравар.

У гэтых варунках куды цікавей, што ўсё ж значная частка шляхты, і магнацтва ўпарта захоўвала ранейшую, да ўсталявання вышэйшай улады ліцвінаў - Гедымінавічаў, саманазву - "русіны". А пазней - і "беларусіны".

Магчыма, каб захаваць адрознасць ад маскоўцаў, якія рускасць ужо цалкам перахапілі. Спярша, магчыма, "беларускасць" пайшла ад праваслаўнага духавенства, якое не хацела падпарадкоўвацца маскоўскаму мітрапаліту, Выспела гэтая патрэба і ў асяродку студэнцтва, я ўжо згадваў і беларускія студэнцкія суполкі ў Санкт-Пецярбургу, дзе атрымалі нацыянальную загартоўку і Францішак Багушэвіч, і Янка Купала, і іншыя нашы нацыянальныя апосталы.

Канешне, можна зразумець мары нашых некаторых патрыётаў пра, аднаўленне "ліцвінства", гэта таксама вынік уздзеяння духоўнай нацыянальнай катастрофы, калі ўзнікае патрэба адшукаць апірышча ў мінулым, бо мае месца расчараванне ў сіле духу сучаснікаў. Але ж не варта забываць, што былі і ў нашых душах застаюцца і Скарына, і Багушэвіч, і магутная постаць Кастуся Каліноўскага, і кагорта духоўных асілкаў, што здолелі абвесціць Беларускую Народную Рэспубліку. Ды і сёння ёсць кім з сучаснікаў ганарыцца.

З кім асабіста я? З маім народам, які ў перапісах насельніцтва, дарэчы, самахоць і пераважнай бальшынёю называе сябе беларусамі. Вось перад ім я гатовы і шапку зняць. У знак любові і павагі, а не прыніжаючыся.

***Эрнэст Ялугін.***

## Мастак з Наваградчыны



Віктар Залацілін нарадзіўся 23 сакавіка 1955 г. у вёсцы Купіск на Наваградчыне. Закончыў дзве ВНУ: геаграфічны факультэт БДУ і Інстытут народнай гаспадаркі. Працаваў намеснікам кіраўніка вучэбнага цэнтра па сельгаспадарцы. З 1992 г па 1998 гг. займаўся прадпрымальніцтвам. Настаўнічаў у роднай школе. Пад яго кіраўніцтвам школа займала першыя месцы ў конкурсах па маляванні, атрымоўвала дыпломы.

З 2001 года кідае горад, пераязджае у родную вёску і актыўна пачынае займацца жывапісам... Упершыню выставіўся ў "Доме-музеі Адама Міцкевіча".

Чарговыя выставы адбыліся ў галерэях г. Менска: "Славутыя майстры" і "Вільнюс", у галерэі "Тызенгаўз" (Гародня), а таксама ў мастацкай галерэі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры.

Любімая тэматыка яго твораў - краявіды Наваградчыны! Кожны дзень ён крочыць у поле, на луг, да ракі, дзе робіць розныя замалёўкі, эскізы...



І толькі тады, дома нараджаюцца сапраўдныя творы. Мастак выканаў шэраг іканаграфічных работ для храмаў Наваградчыны і г. Менска.

27 верасня 2012 года Віктар Мікалаевіч Залацілін адчыніў выставу ў бібліятэцы імя Багушэвіча ў Менску. Бібліятэкары галерэі "Вільнюс" падаравалі мастаку лаўровы вянок.

На мерапрыемстве пра творчасць спадара Віктара і яго асобу разважалі намеснік дэкана геаграфічнага факультэта БДУ Міхаіл Васільевіч Кухарчык, а таксама славуты мастак (паходжаннем з Наваградчыны) Кастусь Качан. Было адзначана, што творы Віктара Мікалаевіча захоўваюцца ў прыватных зборах у С. Пецярбурзе, Львове, Менску і іншых гарадах.

Моладзь кідалася па аўтографы да мастака. Гучала музыка. Мерапрыемства прайшло ў творчай атмасферы. Было вельмі цікава!

***Аляксей Шалахоўскі.***





# Да 150-годдзя паўстання 1863 года

## Новы дадатак ў скарбонку спадчыны

13 верасня 2012 г. на пасяджэнні Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай рады па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь былі разгледжаны прапановы Беларускага дорбраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры па наданні статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці мясцінам, звязаным з паўстаннем 1863 г., якія былі распрацаваны і пададзены ў межах агульнанацыянальнай кампаніі "Будзьма беларусамі", а канкрэтна мемарыялу на месцы бітвы пад Мілавідамі, магілам паўстанцаў у г. Косава і в. Плябань (http://pomniki.budzma.org/news/pawstannye-1863-h-yubilyey-uzho-nye-za-harami)

Праца зроблена была не дарэмна. Па выніках разгляду было прынята рашэнне аб адпаведнасці прапанаваных аб'ектаў крытэрыям, згодна якіх вызначаюцца гістарычна-культурныя каштоўнасці, і аб унясенні ў Савет Міністраў прапановы аб наданні дадзенага статусу разгледжаным аб'ектам, як помнікам гісторыі. Магілам паўстанцаў у Косава і Плябані прапанавана надаць катэгорыю "3" (мясцовае значэнне), а мемарыялу на месцы бою пад Мілавідамі - катэгорыю "2" (нацыянальнае значэнне).

У юбілейны, 150-ты год паўстання, Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры і кампанія "Будзьма беларусамі" крочаць ужо не з пустымі рукамі.



МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

220004, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 11, тэл. (017) 203 75 74, факс 203 90 45

ВЫПІСКА З ПРАТАКОЛА ПАСЯДЖЭННЯ БЕЛАРУСКАЙ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ НАВУКОВА-МЕТАДЫЧНАЙ РАДЫ ПА ПЫТАННЯХ ГІСТОРЫКА- КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ ПРЫ МІНІСТЭРСТВЕ КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

13.09.2012 г. № 196

ГА "Беларускае дабраахвотнае таварыста аховы помнікаў гісторыі і культуры"

Упраўленне культуры Брэсцкага аблвыканкама

**3. Аб наданні статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці**

Прымаючы да ўвагі адпаведнасць прадстаўленых аб'ектаў крытэрыям вызначаным палажэннямі артыкула 20 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь" (далей - Закон) ВЫРАШЫЛІ:

3.1. Унесці прапанову ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь аб неабходнасці надання статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці:

3.1.11. Крыжу і капліцы ў памяць загінуўшых у бітве пад Мілавідамі 1863 г., у 5 км на захад ад цэнтру в. Мілавіды, побач з в. Калпакі Баранавіцкага раёна Брэсцкай вобласці, як помніку гісторыі з прысваеннем катэгорыі "2".

Намеснік Міністра В.І. Кураш.



МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

220004, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 11, тэл. (017) 203 75 74, факс 203 90 45

ВЫПІСКА З ПРАТАКОЛА ПАСЯДЖЭННЯ БЕЛАРУСКАЙ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ НАВУКОВА-МЕТАДЫЧНАЙ РАДЫ ПА ПЫТАННЯХ ГІСТОРЫКА- КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ ПРЫ МІНІСТЭРСТВЕ КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

13.09.2012 г. № 196

ГА "Беларускае дабраахвотнае таварыста аховы помнікаў гісторыі і культуры"

Упраўленне культуры Брэсцкага аблвыканкама

**3. Аб наданні статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці**

Прымаючы да ўвагі адпаведнасць прадстаўленых аб'ектаў крытэрыям вызначаным палажэннямі артыкула 20 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь" (далей - Закон) ВЫРАШЫЛІ:

3.1. Унесці прапанову ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь аб неабходнасці надання статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці:

3.1.12. Магіле паўстанцаў 1863 г. у г. Косава Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці, на тэрыторыі рыма-каталіцкіх могілак на паўднёва-усходняй ускраіне горада, як помніку гісторыі з прысваеннем катэгорыі "3".

Намеснік Міністра В.І. Кураш.



МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

220004, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 11, тэл (017) 203 75 74, факс 203 90 45

ВЫПІСКА З ПРАТАКОЛА ПАСЯДЖЭННЯ БЕЛАРУСКАЙ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ НАВУКОВА-МЕТАДЫЧНАЙ РАДЫ ПА ПЫТАННЯХ ГІСТОРЫКА- КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ ПРЫ МІНІСТЭРСТВЕ КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

13.09.2012 г. № 196

ГА "Беларускае дабраахвотнае таварыста аховы помнікаў гісторыі і культуры"

Упраўленне культуры Мінскага аблвыканкама

**3. Аб наданні статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці**

Прымаючы да ўвагі адпаведнасць прадстаўленых аб'ектаў крытэрыям вызначаным палажэннямі артыкула 20 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь" (далей - Закон) ВЫРАШЫЛІ:

3.1. Унесці прапанову ў Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь аб неабходнасці надання статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці:

3.1.13. Магіле паўстанцаў 1863 г. у в. Плябань Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці, за 300 м на паўднёвы захад ад вёскі на старых рыма-каталіцкіх могілках, як помніку гісторыі з прысваеннем катэгорыі "3".

Намеснік Міністра В.І. Кураш.



# Някідкая беларушчына

На жаль, беларускую мову даволі цяжка знайсці ў нашым паўсядзённым жыцці. Трапляюцца беларускамоўныя шыльды, па-беларуску гучаць абвесткі ў грамадскім транспарце, па тэлебачанні можна пабачыць беларускамоўныя перадачы - усё гэта добра, і вельмі хацелася б, каб гэтага было як найбольш. Але што можа зрабіць для гэтага асобна ўзяты чалавек?

Відавочна, трэба пачынаць размаўляць па-беларуску, трэба ўсведамляць сябе беларусам. Але разам з тым мы можам дададаць беларускасці самым звычайным на першы погляд месцам.

Напрыклад, калі гуляць у Менску па набярэжнай Свіслачы, недалёка ад музея Янкі Купалы можна пабачыць сціплы надпіс - цытату з верша класіка:

*Паўстаньце, рабскія натуры,*
*Пакіньце свой адвечны сон,*
*Загаманіце віхрам, бурай,*
*Каб ажно дрогнуў ваш палон.*

І хаця гэтыя радкі не напісаны яркімі, кідкімі літарамі, а толькі злёгку выдзяляюцца сваёй белізной на шэрай паверхні бетону, яны кранаюць за душу, пераконваюць у тым, што беларушчына жывая, што ёсць будучыня ў нашай мовы і нашай краіны.




***Юрась Каласоўкі,*** *Магілёў;*
*фота -* ***Алена Радзевіч,*** *Менск.*

# Фэст жураўлёў і журавін








У горадзе Мёры ўпершыню прайшло экалагічнае свята "Жураўлі і журавіны Мёрскага краю". Мэтай імпрэзы сталася прыцягненне ўвагі грамадскасці да праблем экалогіі на мясцовым узроўні пры падтрымцы міжнароднай супольнасці.

Арганізатарамі мерапрыемства выступілі Мёрскі райвыканкам, Праект ЕС і ПРААН "Садзейнічанне развіццю ўсёабдымнай структуры міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне ахоўы навакольнага асяроддзя ў Рэспубліцы Беларусь", Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь пры падтрымцы Міністэрства спорту і турызму Рэспублікі Беларусь і грамадскай арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны".



Час і месца правядзення свята абраныя невыпадкова. Тут, на Віцебшчыне, месціцца адно з найбуйнейшых верхавых балот у Беларусі і ва ўсёй Еўропе - Ельня. І менавіта ў верасні гэтыя мясціны прымаюць на адпачынак падчас восеньскай міграцыі больш за 4 000 жураўлёў і 10 000 гусей штогод. Таксама ў гэты час на тутэйшых балотах пачынаецца сезон збору журавін. Па словах старшыні Мёрскага райвыканкаму Ігара Кузняцова, у мінулым годзе было нарыхтавана 150 тон ягад. У цэлым запас журавін на балоце Ельня па розных крыніцах ацэньваецца ў 200-400 тон.

На прэс-канферэнцыі з арганізатарамі фэсту шмат увагі ўдзялялася тэме інвестыцый у экалагічныя праекты Беларусі, уздымаліся пытанні наконт інфраструктуры і развіцця экатурызму ў раёне. Кіраўнік Аддзела праектаў і праграм Прадстаўніцтва ЕС у Беларусі Левелін Эдвардс паведаміў, што гэтым летам Еўрапейскай камісіяй было прынята рашэнне аб фінансаванні праекту на дванаццаць мільёнаў еўра, які будзе прысвечаны развіццю розных аспектаў "зялёнай" эканомікі ў нашай краіне.

Падчас свята прадстаўнік ПРААН у Беларусі Антоніас Брук падкрэсліў важнасць захавання беларускіх балот не толькі для Беларусі, Еўропы, але і для ўсяго свету. "Гэты фестываль паказвае, што сумеснымі намаганнямі міжнародных, дзяржаўных арганізацый, мясцовых органаў улады, няўрадавых і грамадскіх арганізацый і, канешне ж, мясцовых жыхароў, можна шмат чаго дасягнуць у гэтым кірунку", - сказаў Брук.

Нягледзячы на капрызнае надвор'е, што панавала ў Мёрах 30 верасня, у гарадскім месцы адпачынку "Паўвостраў" стаяў святочны тлум, чуліся спевы і музыка. Прыбраны ў жоўтае лісце сквер стаў гарманічнай дэкарацыяй для афармлення імправізаваных вясковых падворкаў Мёрскага краю. Тут гаспадары падвор'яў заклікалі наведвальнікаў пакаштаваць разнастайнай выпечкі з журавінамі, журавінавага морсу і нават гарэлкі. Былі на свяце і іншыя забавы: выступленні песенных калектываў і выканаўцаў, конкурсная праграма сярод школьніц "Мёрская Журавінка", атракцыёны, экалагічныя гульні, віктарыны, выстава-продаж вырабаў народных майстроў.

Кульмінацыяй святочных мерапрыемстваў стаў арганізаваны аўтобусны выезд на палі Мёрскага краю, дзе ўсе ахвотныя праз спецыяльныя прыстасаванні і біноклі маглі назіраць за зграямі грацыёзных шэрых жураўлёў.

***Дзіяна Серадзюк,***
*фота **Вольгі Алімавай**,*
*TUT.BY.*

# Свята ручнікоў у Няглюбцы



На Гомельшчыне нарадзілася новае свята - свята беларускага ручніка.

З ініцыятывы абласнога ўпраўлення культуры такое свята 6 кастрычніка ладзілі ў вёсцы Няглюбка Веткаўскага раёну.

Вёска гэтая здавён славіцца сваімі традыцыямі ткацтва. Няглюбскім ручнікам, вытканым тутэйшымі майстрыхамі на драўляных кроснах, дзівіліся на міжнародных выставах у Нью-Ёрку, Манрэалі, Парыжы, Бруселі, Токіё.



Няглюбскія ручнікі пабралі залатыя медалі шматлікіх музеяў свету, адзін з іх упрыгожвае нават залу Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

- Я і сама ткала ручнікі, - згадвае 83-гадовая Палагея Прыходзька. - У нас, лічы, у кожнай хаце ручнікі. І нідзе моды прыгажэйшай не было. Некалі без ручніка ніводная дзяўчына замуж не выходзіла. І хусцінкі такія прыгожыя выраблялі, і павалакі, і кашулі. У нас такія знатныя майстрыхі: Настасся Хрушчова, Фрося Дзямчыхіна, Настасся Сарасека. Багата было і старэйшых, але многіх ужо няма з намі.





У вясковым скверы, што побач з сельскім Домам культуры, - сапраўдны музей беларускіх ручнікоў пад адкрытым небам. Арганізатары пастараліся, каб на свяце былі прадстаўлены не толькі няглюбскія ручнікі, але і такія ж вырабы з іншых мясцовасцяў. Прывезлі свае ручнікі і паясы майстрыхі з Акцябрскага, Лельчыцкага, Нараўлянскага, Кармянскага, Рэчыцкага, Светлагорскага раёнаў.




Пад адкрытым небам паказвалі свае ўменне ткаць Тацяна Суглоб, Людміла Кавалёва з Няглюбкі, Марыя Плех з вёскі Данілавічы Лельчыцкага раёну. Паясы прынародна ткала Марыя Сарнаўская з райцэнтра Акцябрскі.

- Такія этнакультурныя святы, дэманстрацыя тканых і вышываных ручнікоў дапамогуць падняць цікавасць у моладзі да такога старадаўняга і прыгожага рамяства, як ткацтва. Скажу нават больш - у мяне ў гурток пры Доме культуры пачалі хадзіць не толькі дзяўчынкі, але і хлопчыкі, - кажа Тацяна Суглоб.

Традыцыям мясцовага ткацтва навучае дзяцей у сельскім Доме культуры і Людміла Кавалёва. Сама яна з Брагіншчыны, выйшла замуж за няглюбскага хлопца і тут навучылася ткаць выдатныя ручнікі.

На свяце ў Няглюбцы ня толькі паказвалі ручнікі, але і ўслаўлялі іх у песнях, якія прывезлі сюды народныя калектывы з розных куткоў Гомельшчыны.

*Паводле*
*Радыё Свабоды.*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by

***Рэдакцыйная калегія:***
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Вінцук Вячорка, Юрась Каласоўскі, Юля Карчагіна, Леакадзія Мілаш, Максім Новік, Язэп Палубятка, Аляксей Пяткевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.
**http://nashaslova.mns.by/ http://pawet.net/**
**http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 8.10.2012 г. у 10.00. Замова № 1774.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 3850 руб., 3 мес.- 11550 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.